# ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

6 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. №40 (3811) Кошт 2 500 руб.






*Фота Аляксея МАЦЮША*

# Рыд ТАЛІПАЎ: “Я ВЕДАЮ, ЯК ЦЯЖКА ЖЫЦЬ”

***“Адным з самых яркіх рэжысёраў сучаснасці і “носьбітам адметнага таленту” называюць крытыкі аўстрыйскіх газет “Кур’ер” і “Тэатраліштэ Нойхкайтэн” Рыда ТАЛІПАВА. Па ўздзеянні ягоныя спектаклі крытык “Бадзішэ нойстэ нахрыхтэн” залучае ў адзін шэраг з мастацтвам Феліні. І так далей... На падставе аўстрыйскага друку ўзніклі новыя пытанні да рэжысёра, чый апошні двухгадовы кантракт у Аўстрыі перадусім мае на ўвазе пастаноўку “Караля Ліра”.***

**Цытата:** *“Новая зорка, чыё імя Рыд Таліпаў, — ён прыехаў з беларускага горада Мінска, — з’яўляецца самым яркім адкрыццём... як пачынальнік абсалютна новага тэатральнага кірунку.”*

*Вернер Х. Оттэр, “Тэатраліштэ Нойхкайтэн”*

**— Перапрашаю, Рыд. Ад імя калегаў, магчыма, таксама. Але беларуская тэатральная крытыка проста не возьмецца сцвярджаць нічога падобнага. Малавата бачым. Не забудзецца розгалас аднаго з тваіх першых спектакляў — “Стрып-тыз” — менавіта з ім і злучаюць узнікненне новага тэатральнага кірунку. Як ты сам яго вызначаеш?**

— З аднаго боку, разумееш, хацелася б, каб гэта аналізавалі крытыкі і толькі. Магчыма, гэта кірунак інтэлектуальна-псіхалагічны. Мне вельмі важна, каб у сцэны і глядзельнае залы былі супадзенні па трох узроўнях: інтэлектуальным, эмацыйным ды духоўным. Гэта — мой тэатр у ідэале. Мая мэта. Я ўвогуле чалавек мэтанакіраваны. Кожную працу я пачынаю з пошуку і ўзаемадзеянняў інтэлекту, эмоцыі і духоўнасці. Калі займацца ў тэатры толькі інтэлектам, атрымаецца або маралітэ, або лекцыя з кафедры. Калі ўздзейнічаць толькі на эмоцыі — эфект будзе рыхтык, як ад рыбнага супу, які ганарue сябе акварыумам. Калі толькі духоўнае — гэта ўжо пропаведзь. Прапаведваць лепш за ўсё ўмеюць у храме. Тэатр, хутчэй, гэта споведзь. Тая споведзь, якая здольная уплываць на чалавека. Я настойваю: уплываць. Не вучыць, не навучаць, не падаваць рэцэпты. А ўплываць я магу толькі сваёю адкрытасцю. Часам мне па-чалавечы ніякавата на сваіх спектаклях: да такой ступені адкрыта, шчыра я распавядаю са сцэны пра... сябе.

**Цытата:** *“Ён вымагае з акцёраў шмат чаго і атрымлівае ўсё.”*

*Катарына Крамер, “Кур’ер”*

**— Чым жа твае “вымаганні з акцёраў шмат чаго” вызначаюцца?**

*(Працяг на стар. 13)*

Парламент

# РАСЧАРАВАННЕ

Расказваючы пра адкрыццё 18-й сесіі Вярхоўнага Савета 5 верасня г. г., я колькі слоў прысвяціў эйфарыі, якая панавала ў Авальнай зале, калі стала вядома, што дэпутатаў сабралася дастаткова, каб захаваць прадугледжаны рэгламентам кворум. Эйфарыю тую можна было зразумець, калі мець на ўвазе адназначна адмоўную пазіцыю, якую заняў да цяперашняга складу парламента прэзідэнт краіны А. Лукашэнка. Мяркуючы па ягоных шматлікіх выказваннях, парламента ён проста не прызнае.

А вось ужо на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 3-га кастрычніка, якому папярэднічала праца дэпутатаў у камісіі атмасфера ў зале была не з вясёлых. Ды варта было перад самым пачаткам пасяджэння зірнуць на дзесяткі пустуючых крэслаў, каб зразумець, што на гэты раз кворуму не будзе. Так яно і здарылася.

Раскрываючы падаплёку гэтай сітуацыі, спікер парламента М. Грыб распавёў прысутным, што да яго звярнуўся шэраг дэпутатаў, якія расказалі пра непрыхаваны ўціск на іх з боку кіраўнікоў устаноў, дзе яны працуюць. Некаторым дэпутатам было без усякіх цырымоній заяўлена: "Паедзеце на сесію — будзеце звольнены з працы. За прагул".

Не дадало храбрасці некаторым народным абраннікам і прагучаўшае напярэдадні двухгадзіннае прэзідэнцкае тэлевыступленне, у якім А. Лукашэнка абрынуўся з пагрозамі па адрасе Вярхоўнага Савета, заклікаў дэпутатаў спыніць сваю дзейнасць.

Сярод "вясёлых" навін, якімі М. Грыб падзяліўся з парадзелым дэпутацкім корпусам, — адмова прэзідэнта падпісаць 11 законаў, прынятых гэтай сесіяй. Як вядома, паводле ўстаноўленага заканадаўствам парадку, прыняты парламентам закон павінен быць разгледжаны прэзідэнтам на працягу дзесяці дзён і або падпісаны ім, або вернуты з заўвагамі дэпутатам. Ні таго, ні другога зроблена прэзідэнтам не было, што ў Вярхоўным Савеце было зафіксавана адпаведным актам. Такім чынам, гэтыя законы, а сярод іх заканадаўчыя акты аб уласнасці, аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета і інш., могуць лічыцца прынятымі і павінны выконвацца на тэрыторыі краіны. Усё гэта, вядома, добра, ды ўзнікае пытанне: хто іх будзе выконваць, калі прэзідэнцкая ўлада, у руках якой фактычна сканцэнтраваны ўсе рычагі кіравання, законы гэтыя не прызнае?

Абмен думкамі, які разгарнуўся пасля інфармацыі спікера, насіў эмацыянальны, я б нават сказаў — нервовы характар, што сведчыла, як ні сумна гэта прызнаваць, аб разгубленасці, нават дэмаралізаванасці часткі дэпутатаў, якія хоць і заклікалі "не здавацца", "працягваць працу сесіі", паказаць прэзідэнту, што мы не баімся яго пагроз", — яснага разумення выхаду з тупіковай сітуацыі, у якой апынуўся Вярхоўны Савет, я ў іх выступленнях не заўважыў.

Вядома, нельга было не пагадзіцца з дэпутатамі Г. Карпенкам, П. Садоўскім, Г. Смолярам і іншымі, якія гаварылі аб пільнай патрэбе заслухаць даклады прэм'ер-міністра і міністра фінансаў аб бюджэце, бо сёння ў рэспубліцы распараджаецца бюджэтнымі сродкамі, фактычна, адзін прэзідэнт, пра што сведчаць яго шматлікія заявы накшталт, "Я дам грошы", "Я загадаю выдзеліць з бюджэта сродкі..." і да т. п. Але адразу ўзнікла пытанне, як "прымусіць" таго ж старшыню Кабінета Міністраў прыйсці з дакладам у Вярхоўны Савет, калі прэзідэнт забараняе яму гэта рабіць?

Мне падалося, што найбольш цвярозым, хоць і горкім па сутнасці было выступленне С. Шушкевіча, які сказаў, што калі Вярхоўны Савет у бліжэйшыя дні не збярэ дэпутацкі кворум, ён не зможа лічыцца легітымным, і якія б дакументы ён ні прыняў, іх практычная вартасць будзе роўная нулю.

Паспрачаўшыся гэтак з гадзіну, дэпутаты разышліся з намерам у наступныя дні працаваць у камісіях.

... У амаль ужо пустой Авальнай зале Мечыслава Іванавіча Грыба акружыла некалькі журналістаў, папрасіўшы яго адказаць на пытанні, звязаныя з працай Вярхоўнага Савета і наогул становішчам у краіне. Адзін з карэспандэнтаў, нагадаўшы, што сёння споўнілася акурат два гады пасля вядомых кастрычніцкіх падзей у Маскве, спытаў у спікера, ці не можа такое адбыцца і ў нас, маючы на ўвазе процістаянне прэзідэнцкай і прадстаўнічай улад у Беларусі. М. Грыб адказаў, што наша сітуацыя сапраўды нагадвае тую, што была ў кастрычніку 1993 года вакол Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі, але з дакладнасцю наадварот. У адрозненне ад расійскага Вярхоўнага Савета наш захоўвае ўсе канстытуцыйныя нормы і заўсёды гатовы супрацоўнічаць з прэзідэнцкай уладай. Разам з тым, адказваючы на пытанне, ці дапускае ён такое развіццё падзей, калі па загадзе А. Лукашэнкі дэпутатаў проста не пусцяць у залу пасяджэнняў, спікер сказаў, што гэтага не выключае.

Ваш карэспандэнт на гэтай імправізаванай прэс-канферэнцыі пацікавіўся ў М. Грыба, якія могуць мець наступствы рашэнні Канстытуцыйнага суда аб неадпаведнасці Канстытуцыі шэрагу апошніх прэзідэнцкіх указаў, разгляд якіх у судзе праводзіцца па прадстаўленні Вярхоўнага Савета. Спікер адказаў, што калі Канстытуцыйны суд прызнае нагаданыя ўказы неадпавядаючымі канстытуцыйным нормам, гэта можа даць падставу парламенту аб'явіць імпічмент прэзідэнта. Каб вынесці на разгляд Вярхоўнага Савета такое пытанне, дастаткова ініцыятывы сямідзесяці дэпутатаў. "Але я не веру, заўважыў Мечыслаў Іванавіч, — што такое можа адбыцца пры цяперашнім складзе парламента".

Што ж, спікеру парламента відней.

**М. ЗАМСКІ**

# МЕЛАМАНЫ МАЮЦЬ ВЫБАР...



*"У кулуарах": аўтар сімфоніі "Паўночныя кветкі" Андрэй МДЗІВАНІ (справа) і мастацкі кіраўнік хору "Sonorus" Аляксей ШУТ.*

*Фота Віт.АМІНАВА*

Тое, што на 1 кастрычніка прыпалі сёлета аж два "дні" — Настаўніка ды састарэлых людзей, — не збянтэжыла прыхільнікаў больш сталай традыцыі. 1 кастрычніка даўно Міжнародны дзень музыкі, а для культурнай грамады Мінска гэта яшчэ і пачатак новага філарманічнага сезона.

Вядома, некалькі адметных канцэртаў прайшло і пры канцы верасня: вялікую сімфанічную праграму падрыхтаваў дырыжор Пётр Вандзілоўскі; з маладым калектывам "Minsk-Orchestra" выступіў галоўны дырыжор ДАВТа Аляксандр Анісімаў...

Але ўрачыстае адкрыццё сезона ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося 1 кастрычніка. За пультам акадэмічнага сімфанічнага аркестра быў Міхаіл Казінец, у праграме сярод іншага прагучала і новая сімфонія Андрэя Мдзівані "Паўночныя кветкі", якая ўпершыню "выйшла ў свет" сёлетняй вясной.

Афіша кастрычніка. Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі, харэаграфічны ансамбль "Харошкі", Акадэмічны народны хор з праграмай, прысвечанай 85-годдзю з дня нараджэння заснавальніка гэтага калектыву — Генадзя Цітовіча. Малады піяніст Дзмітрый Марозаў, знаны арганіст Канстанцін Шараў, ганараваны міжнароднымі лаўрамі гітарыст Уладзімір Захараў, які жыве ў Гродне... Хтосьці ўжо выступіў гэтымі днямі, кагосьці можна паслухаць-пабачыць у бліжэйшы час. У меламанаў ёсць выбар, і не абы-які. Для нашага часу гэта проста раскоша!

**С. Б.**

Фестывалі

# ТРЫНАЦЦАТЫ. А ДЛЯ НАС — ПЕРШЫ

Дзе як, а ў Варшаве Міжнародны дзень музыкі адзначылі з сусветным размахам: акурат 1 кастрычніка тут адкрыўся прэстыжны Міжнародны конкурс піяністаў імя Ф. Шапэна. Па ліку 13-ты, хаця і з амаль 70-гадовым стажам (заснаваны ў 1927 г., праводзіцца раз на чатыры гады). І сёлета ўпершыню ўдзельнічаюць у ім прадстаўнікі Беларусі — 26-гадовы піяніст Цімур Сергеяня ды нядаўні выпускнік Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі Андрэй Паначэўны. З гэтай нагоды ў пасольстве Польшчы на Беларусі адбылася сустрэча з прадстаўнікамі друку.

Галантныя гаспадары — першы сакратар пасольства Марэк Галкоўскі ды радца па сувязях з прэсай Павел Коц — забяспечылі журналістаў агульнай інфармацыяй пра шапэнаўскі конкурс, абудзілі ўяўленне пра эмацыянальную атмасферу гэтай падзеі, паспрыялі гутарцы з ганаровым госцем прэс-канферэнцыі — Цімурам Сергеяненм, які днямі выступіў у Беларускай філармоніі з шапэнаўскай праграмай.

Да пачатку 50-х у шапэнаўскім конкурсе пераважалі піяністы са славянскіх краін. Потым гэткая манаполія была парушана ўдзелам прадстаўнікоў не толькі еўрапейскага, але й амерыканскага музычнага свету. Цяпер назіраецца невытлумачальная цікавасць да Шапэна ў Краіне Узыходзячага Сонца: класік польскай музыкі зрабіўся для японцаў чымсьці накшталт другой нацыянальнай рэлігіі. Ці не красамоўны факт, што сярод 140 удзельнікаў сёлетняга конкурсу найбольш прадстаўнічыя каманды — па 23 чалавекі — Польшчы ды Японіі! Пра сваё жаданне наведаць варшаўскую падзею паведамілі 700 японскіх "балельшчыкаў", што стварыла пікантную сітуацыю вакол глядацкіх білетаў... І яшчэ крыху лічбаў. Да ўдзельнікаў конкурсу прад'яўляюцца жорсткія патрабаванні нават падчас адбору: наяўнасць вышэйшай музычнай адукацыі плюс дзве рэкамендацыі — ад сусветна вядомых піяністаў, плюс відэакасета з запісам уласнага выступлення, плюс асабісты ўзнос у памеры 150 долараў ЗША. Тады ёсць шанц трапіць у лік удзельнікаў конкурсу. Пасля першага тура прадоўжаць спаборніцтва не больш як 40 з іх, а ў фінал выйдуць толькі шасцёра. Ну, а першае месца, пра якое марыць кожны канкурсант, — адно... Для ўзнагароджання фіналістаў журы мае 6 прызоў, прычым лідэру прызначаецца залаты медаль і 150 млн. польскіх злотых. Увогуле ж, "мех з падарункамі" досыць ёмісты, практычна кожны жадаючы можа "пакласці" туды сваю імянную прэмію, побач з абавязковымі прызамі для лепшага выканаўцы паланеза,мазуркі і да т.п. Конкурс прадоўжыцца аж да 22 кастрычніка, і ўвесь гэты час Польшча будзе жыць яго падзеямі — як іншыя краіны жывуць спартыўнымі праблемамі падчас Алімпійскіх гульняў.

Што да імёнаў тых, хто даваў рэкамендацыі Цімуру Сергеяню, — гэта вядомыя ў свеце музыканты Навум Штаркман і Валеры Шацкі. У іх малады беларускі піяніст вучыўся пасля смерці сваёй незабыўнай настаўніцы, прафесара Ірыны Цвятаевай. Сам ён бачыць глыбокую заканамернасць у збегу менавіта гэтых асоб: адзін з хрэстаматыйна вядомых карыфеяў расійскай піяністычнай школы Канстанцін Ігумнаў выхаваў выдатнага майстра — Льва Аборына, які стаў лаўрэатам самага першага шапэнаўскага конкурсу, а таксама выдатнага педагога Ірыну Цвятаеву, якая доўгія гады працавал ў Беларускай кансерваторыі ды музычным ліцэі. У Ігумнва вучыўся бацька Валерыя Шацкага, спадкаемцам класа Ігуманва лічыцца і прафесар Штаркман, дарэчы, таксама адзін з лаўрэатаў конкурсу імя Шапэна. Вось такая пераемнасць...

Ну, а праблемы? Пра іх лепей не згадваць зараз, хаця на сустрэчы ў пасольстве гаварылі і пра іх. Зараз лепей памаўчаць, "трымаючы пальцы" за нашых хлопцаў, што абяцалі рабіць і спадары М.Галкоўскі ды П.Коц. Нягледзячы на тое, што зычаць перамогі польскім піяністам, яны шчыра "хварэюць" за дэбют пасланцоў сваёй суседкі — Беларусі.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

Рэпліка

# З ХВОРАЙ ГАЛАВЫ НА ЗДАРОВУЮ...

Прабачце, Яўген Іванавіч, дарагі наш Максім Танк, што даводзіцца турбаваць Ваша імя, памяць пра Вас. Не па сваёй волі. Змушае нас зрабіць гэта адна нядаўняя публікацыя. Газета "Товарищ" раптам апамяталася і амаль праз два месяцы пасля смерці вырашыла "абараніць" народнага паэта ад "нацыянальна-свядомых", "незалежных кан'юнктуршчыкаў". А не спадабаліся журналісту Э. Яснаму паведамленні ў друку, што Максім Танк быў пахаваны пад бел-чырвона-белым сцягам. Што было, тое было, і гэта бачылі сотні людзей, якія праводзілі Максіма Танка ў апошні шлях. Аднак менавіта ў гэтым угледзеў Э. Ясны спробы "дэмакратычных прыстасаванцаў", "карлікаў" "перабудоўваць на свой капыл тытанаў". Маўляў, Максім Танк — "цалкам чырванасцяжны паэт" і ён "Сцягу не здрадзіў" (загаловак артыкула. — "ЛіМ"), "ён крочыў усё жыццё пад чырвоным сцягам. Больш таго. Не было б сцяга, за які ён змагаўся з юнацкай пары як бясстрашны баец рэвалюцыйнага падполля, — не было б і вялікага песняра, не было б гіганта..."

Як бачыце, грэх спрачацца з гэткай дубовай аргументацыяй. А таму скажам толькі, што праз усё жыццё Максім Танк пранёс найперш вернасць свайму народу, усё жыццё змагаўся за ягоную лепшую будучыню і творчасць сваю аддаў і прысвяціў толькі яму. А не нейкаму там сцягу.

Дарэчы, гэта цалкам у бальшавіцкіх традыцыях — скарыстоўваць смерць вялікага чалавека дзеля чарговага палітычнага шоу альбо скандальчыка. Шуму, адным словам. Каб "выкрыць", каб абылгаць сваіх апанентаў, сваіх ідэйных праціўнікаў. Так можна разумець і гэтую публікацыю. Пры гэтым карыстаюцца бальшавікі элементарнай хлуснёй, якой і сапраўды пазайздросціў бы партайгеносэ Гебельс. Вось што піша ў сваім артыкуле Э. Ясны, цытуем: "Зараз ужо можна сказаць і аб тым, як паміраў вялікі нацыянальны паэт. Як? У перапоўненай палаце для так званых безнадзейных хворых. У антысанітарных умовах. Без свежага паветра. У гэты ж час у бальніцы пуставалі "незалежныя" люксы. За іх трэба было плаціць шмат грошай. Пажадана, даляраў. У безнадзейна хворых іх не было. Па гэтай прычыне яны праходзілі апошні "курс лячэння" ў дэмакратычных абставінах. Ніхто з палымяных адраджэнцаў, сярод якіх ёсць і дэпутаты "парламенту" — вучні Танка — не забіў у званы, не крыкнуў: што ты робіш, афіцыйная Беларусь? Як табе не сорамна?"

Пра тое, як "лячылі" і як памёр Максім Танк, можна было казаць і два і тры месяцы назад. І гаварылі. Не толькі падчас пахавання, на якім прысутнічала тая самая "афіцыйная Беларусь". Народны дэпутат, паэт Ніл Гілевіч пасля наведання Максіма Танка ў бальніцы накіраваў Уладзіміру Русакевічу, які адказвае ў нашым урадзе за культуру, ліст такога зместу: "Быў сёння ў бальніцы ў Максіма Танка. Ён у вельмі цяжкім становішчы, слабее з кожным днём, пачуваецца ўсё горш і горш. Ну але тут ужо воля Божая. А ёсць і тое, што залежыць ад волі людзей. Здзівіла і балюча ўразіла мяне, што Яўген Іванавіч ляжыць у агульнай палаце, ды яшчэ й на сонцы. А ў бальніцы ёсць люксы і паўлюксы, дзе раней яго заўсёды лячылі. Максім Танк не перастаў быць тым, кім ёсць. З усіх жывых больш заслужанага перад Беларуссю няма. Вельмі Вас прашу: умяшайцеся, калі ласка, каб яму былі створаны лепшыя ўмовы, ён у зусім кепскім стане. Сам ён не спадзеецца, што ўжо выйдзе адтуль. Умяшайцеся ж!

Са шчырай павагай — Ніл Гілевіч, 1.8.1995."

Але "афіцыйная Беларусь" не адгукнулася, не ўмяшалася, не дапамагла, адвярнулася ад свайго сына... Тая "афіцыйная Беларусь", што вярнула чырвона-зялёны сцяг, што спляжыла, растаптала мову, якой не здрадзіў Максім Танк, якую пранёс праз усё жыццё. Дык прычым тут адраджэнцы і дэмакраты?

Сёння сярод неакамуністаў і неабальшавікоў надта папулярная ідэя, што ва ўсім, што адбываецца на Беларусі зараз, вінаваты "дэмакраты". Апомніцеся, таварышы, разуйце вочы! Гэта ж вашыя вылучэнцы, вашыя кадры кіруюць сёння намі, і вы пры кожнай нагодзе крычыце аб падтрымцы іхняй палітыкі. Гэта яны сваім курсам на адназначнае "вялікага і магутнага" канчаткова развалілі, разбурылі дзяржаву Беларусь, вынішчаючы нацыянальную культуру і мову, гэта яны стварылі такое жыццё Максіму Танку, і не толькі яму. Дык навошта перакладаць грахі з хворай галавы на здаровую?..

**ЛІМАВЕЦ**

ЛіМ
ЧАСАПІС

## УПЕРШЫНЮ Ў БЕЛАРУСІ НА... РОДНАЙ МОВЕ

**Амаль пяцьсот старонак, прыгожае афармленне, выразны шрыфт — так выглядае "Новы Запавет. Псалтыр", выпушчаны Выдавецкім цэнтрам "Бацькаўшчына".**

**Наколькі важнае з'яўленне яго для Бацькаўшчыны, яскрава відаць з тэксту, размешчанага на другім баку тытульнай старонкі: "З дабраслаўлення Найпачэснейшага Мікалая Архіепіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ўпершыню ў Беларусі на роднай мове друкуецца Святое пісанне ў перакладзе з царкоўнаславянскай прызнанага майстра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіля Сёмухі. Выдаецца пры фінансавай падтрымцы доктара гісторыі, спадара Янкі Запрудніка (ЗША)".**

**Набор кнігі быў выкананы на настольна-выдавецкай сістэме Юркі Рапэцкага ў Канадзе, адказны за выпуск старшыня ВЦ "Бацькаўшчына" Я.Лецка.**

**Увогуле, каб з'явілася гэтае патрэбнае выданне своечасова, спатрэбіліся намаганні многіх, пра што і нагадвае В.Сёмуха: "Шчыра дзякую ўсім асобам і ўстановам, якія паспрыялі выданню гэтай кнігі: Мітрапаліту Мікалаю (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, ЗША, Канада), Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту, спадару Юрку Рапэцкаму (Глабальнае місіянерскае радыёслужэнне, Канада), спадару Янку Запрудніку (ЗША), выдавецкаму цэнтру Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" (Беларусь), прасвітару Уладзіміру Канатушу (Царква Евангельскіх Хрысціян-Баптыстаў, Беларусь), спадарам Валянціне і Міхаілу Пашкевічам (Канада), спадару Роберту Пухоўскаму (ЗША), спадару Сахараву (Канада)".**

## У ЧАРГОВЫМ НУМАРЫ

**часопіса "Беларуская думка" (а ён выйшаў здвоеным, восьмы і дзевяты) змешчаны вершы Б.Спрынчана, навелы У.Глушакова, публіцыстычныя развагі М.Панасюка "Перш чым шукаць жыццё на Марсе...", А.Махнач ("Вясковы летапісец") расказвае пра чалавека цікавага лёсу Х.Бельскага. С.Антановіч ("...І адгукнулася "Віцебская справа") выступае з судовым нарысам. Пытанням нацыянальнага Адраджэння прысвечаны роздум А.Канапелькі "Згубленыя скарбы, або Тайна крыжа Еўфрасінні Полацкай і іншых нацыянальных каштоўнасцей". Карэспандэнт "БД" Г.Булыка гутарыць са старшынёй Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь В.Саковічам — "Вірус карупцыі нас мінуў".**

## ВЫХАВАЦЕЛЯМ І БАЦЬКАМ

**Каб у дзіцячых садках было ўсё ў ладзе з беларускай мовай, глядзіш — і не знаходзілася б бацькоў, ахвочых накіроўваць сваіх дзяцей у рускамоўныя класы. А для гэтага неабходна, каб моўнае выхаванне маленькіх вялося належным чынам, спалучала ў сабе не толькі авалоданне пэўнымі навыкамі, а і элементы гульні, што даваляе лёгка засвоіць патрэбны матэрыял. Як зрабіць гэта лепш, расказвае ў кнізе "Беларуская мова ў дзіцячым садзе" Н.Старжынская (выдавецтва "Народная асвета"). Аўтар, якая ў педагогіцы не навічок, і гэтым разам вельмі дакладна раскрывае псіхолага-педагагічныя асновы, змест і методыку навучання беларускай мове дашкольнікаў. Асаблівая ўвага звернута на тое, як паскорыць і палепшыць вымаўленне, засваенне лексікі, авалодаць пачатковымі элементамі граматыкі. Не лішняй стане гэтая кніжка і для бацькоў, якія самі пажадаюць выступіць у ролі настаўнікаў сваіх дзетак.**

## УСЁ Ж НЕ АДНЫМ ДНЁМ ЖЫВЁМ...

**Верыцца, што, нягледзячы ні на якія перашкоды, беларуская мова выжыве. А таму застаецца толькі вітаць з'яўленне ў выдавецтве "Полымя" "Руска-беларускага слоўніка спартыўнай тэрміналогіі" У.Старчанкі і Д.Паўлаўца. Ён, думаецца, прыдасца і настаўнікам, і выкладчыкам фізічнай культуры, і студэнтам, і журналістам, каму ў першую чаргу адрасаваны, і тым, хто не забывае, што ён жыве ў суверэннай беларускай дзяржаве.**

Крытыка

# ДЗІВА ХОДЗІЦЬ ПА ДВАРЫ...

Думаючы пра нашую дзіцячую літаратуру, я неаднойчы прыходзіў да высновы, што пры пэўных умовах яна магла б размічваць на куды большую папулярнасць у свеце і ў стане была б канкурыраваць хоць бы і з творамі тых жа скандынаўскіх пісьменнікаў. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, наш надзвычай самабытны дзіцячы фальклор, створаны людзьмі з багатай фантазіяй і гумарам, якія праз гены не могуць не перадавацца з пакалення ў пакаленне.

Наша дзіцячая літаратура магла б быць адной з самых вядомых у свеце, але гэта справа не толькі пісьменніцкая, але і дзяржаўная, аб чым наша дзяржава, мабыць, нават і не здагадваецца.

У Вялікабрытаніі колькасць перакладных дзіцячых кніжак складае ўсяго 8%, усе астатнія — айчынных аўтараў. Так, напрыклад, у 1994 г. з 7080 выдадзеных кніжак толькі 200 было перакладзена з іншых моў.

Дзеля справядлівасці, праўда, адзначым, што гэтыя лічбы ў іншых краінах Еўропы не такія ашаламляльныя. Напрыклад, у Францыі і Галандыі штогод перакладаецца да 60% ад агульнай колькасці выдаваемых дзіцячых кніжак. Але і з гэтымі краінамі Беларусь не ідзе ні ў якае параўнанне — прынамсі, у той жа Францыі гэтыя 60% кніжак выдаюцца на роднай французскай мове.

Беларускамоўных дзіцячых кніжак у нас не толькі выдаецца надзвычай мала, у нас да іх і адносіны, нібы да дзяцей,— паблажліва-недаверлівыя. З боку чытача. З боку выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў. З боку дзяржавы. І, як ні дзіўна, з боку саміх пісьменнікаў. Не адно дзесяцігоддзе ў нас шлях у "класікі" ляжаў галоўным чынам праз напісанне раманаў, у якіх трэба было "як мага праўдзівей" адлюстраваць "жыццё савецкага народа". Творы для дзяцей пісаліся як бы "паміж справай".

Ці не таму ў нас "чыста" дзіцячых пісьменнікаў можна пералічыць па пальцах?

Часткова гэты недахоп дзіцячай літаратуры кампенсуюць нашы "дарослыя" пісьменнікі — Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Алег Лойка, Раіса Баравікова, Данута Бічэль-Загнетава, Уладзімір Ягоўдзік, Сяргей Кавалёў, Пятро Васючэнка... Найбольш, чамусьці, паэты.

Вось і Васіль Зуёнак сёлета выдаў чарговую кніжку для дзяцей — адзін з тых нямногіх творцаў, чые дзіцячыя кніжкі з'яўляюцца ў друку досыць рэгулярна.

Як амаль заўсёды здараецца ў такіх выпадках, "дарослыя" рэчы В.Зуёнка — і не без дапамогі нашых крытыкаў — на працягу ўсёй яго творчасці засланяюць сабой тыя, што напісаны ім для дзяцей. Прынамсі, апошнія сур'ёзна амаль не аналізуюцца, не часта згадваюцца ў артыкулах, прысвечаных яго творчасці, не ўключаюцца ў выбранае аўтара.

Тым часам дзіцячыя творы паэта па сваёй арыгінальнасці ніяк не саступаюць творам "дарослым", аб чым засведчыла і апошняя кніга В.Зуёнка "Бадзірог".

Дзіцячы свет надзвычай складаны для разумення, ён жыве па сваіх няпростых законах, у ім рэальнае і фантастычнае, праўда і вымысел цесна пераплятаюцца, і далёка не кожны пісьменнік можа спаборнічаць з дзіцем у прыдумванні арыгінальных сюжэтаў, якія б не супярэчылі гэтым законам. Дзіцячы свет настолькі незвычайны і таямнічы, што патугі многіх аўтараў прынесці ў яго нешта сваё часта разбіваюцца аб сцяну дзіцячай абыякавасці.

Васіль Зуёнак пісьменнік вопытны, і ў гэтай сцяне ён не раз знаходзіў патаемныя дзверы: перад ім яны расчыняюцца лёгка, з дапамогай некалькіх чароўных слоў.

Першае чароўнае слова ў новым зборніку аўтара вынесена на вокладку — Бадзірог. Разгадка яго прадбачліва схавана аж на 61 старонцы кніжкі:

**Бадзірог,**
**Бадзірог —**
**Не пускае за парог:**
**Дзеці ў хаце туляцца,**
**А ён —**
**Ідзе па вуліцы,**
**Бэкае і мэкае,**
**Ледзь не кукарэкае, —**
**Уцякайце — хто куды**
**Ад рагатае бяды!..**

Увогуле ж задачу перад сабой В.Зуёнак паставіў не з лёгкіх. У пошуках арыгінальных тэм, вобразаў пісьменнікі, як правіла, "вандруюць" па ўсім свеце, прыдумляюць самыя дзіўныя краіны, самых неверагодных герояў. А ў яго:

**Не за трыдзевяць зямель**
**Адплывае карабель,**
**Не за сінія нябёсы**
**Мы ляцім шукаць дзівосы, —**
**Азірніцеся, сябры:**
**Колькі цудаў на двары,**
**Колькі ў наваколлі —**
**Не злічыць ніколі!..**

Але ж тут пабывала ўжо столькі паэтаў і празаікаў, што, здаецца, не засталося ніводнай не апетай імі травінкі, ніводнага зладзеяватага вераб'я, усё даўно вытаптана і знішчана.

Але ўжо з першых старонак кнігі недавер да аўтара знікае аблачынкай на майскім небе. Не збіцца на трывіяльнасць, з аднаго боку, і надуманасць — з другога паэту дапамагаюць фантазія і гумар. Два гэтыя паняцці — фантазія і гумар — якраз і творац цуды, знаходзяць незвычайнае ў знаёмым і будзённым:

**Зойдзе ў самы вір бугай —**
**Льецца рэчка цераз край.**
**Піць пачне, разок глыне —**
**Ці была вада, ці не?..**
**Да расiначкi, да кроплі**
**Вып'е рэчку — і не лопне.**

**Без вады бугай рыкае —**
**Рыба посуху ўцякае.**

У гэтых радках, як, зрэшты, і ў многіх іншых творах паэта, вымысел настолькі цесна пераплятаецца з рэальнасцю, што неўпрыкмет сам пачынаеш успрымаць яго як нешта зусім верагоднае. Аўтарская фантазія незаўважна пераліваецца ў рэальнасць, рэальнасць лёгка пераходзіць у фантазію.

У тых выпадках, калі рэальнасць прэвалюе, калі твор пабудаваны на досыць будзённым, не надта арыгінальным сюжэце, паэт падкупляе сваіх юных чытачоў ці слухачоў іншымі паэтычнымі прыёмамі. Часам вялікую ролю (калі не адну з самых галоўных) у вершы адыгрывае рытм.

Вось, напрыклад, верш "У Зялёнае". Сюжэт яго можна перадаць адным сказам: хлопчык Вася едзе ў госці да бабулі і пазірае ў акно. Здавалася б, каб зацікавіць чытача гэтым вершам, аўтар далей абавязкова павінен прыдумаць нейкую вясёлую ці незвычайную гісторыю. Але паэт пайшоў іншым шляхам.

**Ехаў Вася**
**У Зялёнае,**
**Абжываў**
**Жыццё вагоннае.**

**Знізу колы:**
**— Тра-та-та!**
**А наўкола —**
**Любата!**

Адчуваеце, як рытм верша заварожвае, ствараe адчуванне руху, нават стуку колаў? Ён быццам пераносіць чытача ў той вагон, у якім едзе галоўны герой твора.

Асаблівага эфекту дасягае аўтар у канцы верша:

**Бег цягнік, з вагона Вася**
**Любатою любаваўся,**
**Да акна шчыльней прынік...**

**Толькі — раз! — і стаў цягнік.**
**Потым зноў і зноў спыніўся, —**
**Быццам штосьці ўзяць забыўся.**

Слова "быццам" тут з'явілася невыпадкова. Быццам — гэта ўсяго яшчэ толькі разважанні, яшчэ толькі пошукі прычыны яго прыпынкаў. Нарэшце — прычына знойдзена. арыгінальная, нечаканая і вясёлая:

**Так спыняўся ды спыняўся,**
**Аж пакуль не ўцяміў Вася, —**
**Не змаўчаў,**
**Закрычаў:**

**— Аб'яўляецца прыпынак:**
**Стаў цягнік на адпачынак!..**

Вялікую ўвагу паэт надае мове сваіх твораў. Незнаёмыя дзецям словы ў іх сустракаюцца даволі рэдка, і, як правіла, яны пастаўлены ў такі кантэкст, што разгадаць іх сэнс няцяжка.

Некаторыя словы ўзятыя з дзіцячай лексікі ці нават прыдуманы самім аўтарам. Так, у вершы "Ключы" дзяцел кажа вароне, якая любіла ў яго пазычаць ключы: "Любіш быць узяхай? Не забудзь тады — Пабудзь Хоць разок аддахай!.." Тых, хто не хоча мыцца, аўтар называе "непамыцькамі". Хлопчык Вася ў яго любуецца "любатою", а Афрыка — "самая афрыканская".

Усе творы ў зборніку наскрозь прасвечаны дабрынёй і любоўю аўтара да сваіх герояў, любоўю да ўсяго жывога. Гэта рыса творчасці В.Зуёнка кідаецца ў вочы з першых старонак кнігі. А герояў у ёй досыць багата — страказа, дзяцел, ластаўкі, сарока, варона, гусі, качкі, зімародак, верабей... Адным словам, сямейка немалая.

Калі ў вершах жыццё іх герояў часцей за ўсё казачнае, а іх прыгоды неверагодныя, то ў невялікіх апавяданнях (іх у зборніку таксама шмат) аўтар выступае як бы ў ролі цікаўнага назіральніка. Здаецца, ён толькі занатоўвае ўбачанае, але ўвесь сакрэт у тым, што ўбачыць такое ды перадаць убачанае з добрым гумарам, сцісла, перасыпаючы сказы яркімі метафарамі, можа далёка не кожны.

У адным з апавяданняў, напрыклад, В.Зуёнак расказвае пра тое, як кацяняты спасцігаюць хітрую навуку палявання. Напачатку мішэнню служыць уласны хвост, у наступным "класе" гуляюць "уцёмную" і г.д. У іншым сабака Басяк глядзіць "тэлевізар" — у акенца куранятніка, за якім вошкаюцца малыя кураняты.

Апавяданні В.Зуёнка — гэта не толькі, як высначыў сам аўтар, "карагод вясёлых прыгод". Гэта творы, якія дапамагаюць дзецям пазнаваць навакольны свет, жыццё "братоў нашых меншых". Чытаючы ці слухаючы іх, дзіця, пэўна ж, будзе верыць аўтару і прымаць як зусім рэальнае размовы і думкі жывёл, паколькі гэтыя размовы і думкі цалкам вынікаюць з паводзін крылатых і хвастатых герояў кнігі.

Несумненна, "Бадзірог" — знаходка для складальнікаў розных чытанак, аўтараў падручнікаў і дапаможнікаў па мове і літаратуры. Хоць, праўда, я і спатыкнуўся быў аб словы "шажком", "ку-ка-ра-ку", "дзетсад", аб фразы "**разважаць** сваю **віну**", "Што ні певень, то мастак: Не **шкадуюць бою!..**" Верш "Ля крыніцы" дужа нагадаў мне папулярны мультфільм "Крошка Янот".

А ўвогуле — шкада. Шкада, што для многіх дзяцей гэтая кніга, пэўна ж, стане "прадметам аднаразовага карыстання", — пры неасцярожным абыходжанні з ёй яна імгненна развальваецца, а вокладка лёгка ператвараецца ў анучку. Штодня праходзячы ля кніжных латкоў, якіх сёння багата раскідана па вуліцах Мінска, спыняючыся і беручы ў рукі дзіцячыя выданні на самы розны густ, для розных узростаў — у цвёрдых вокладках, надрукаваныя на цудоўнай паперы (і, вядома ж, не беларускамоўныя), — я з сумам думаю, што наша дзіцячая літаратура яшчэ не хутка будзе пачуваць сябе роўнай з літаратурамі іншых народаў.

**Алесь БАДАК**

*Васіль Зуёнак. Бадзірог. Мінск, "Юнацтва", 1995.*

# ПАД СІМВАЛАМ ПАДКОВЫ

Які вялікі сэнс звязвалі жыхары палескага краю з ранішнім госцем — тым, хто першым заходзіў у іх хату — сёння ведаюць не ўсе. Людзей радавала, калі новы дзень пасля змроку ночы яны пачыналі са слова, пачутага з вуснаў добрага суседа, аднавяскоўца ці шчырага душэўнага падарожніка, які завітаў у іх жытло. Водгук такой чалавечай добразычлівасці я адчуў, калі стаў чытаць новы зборнік В.Сахарчука "Ранішні госць".

У вершы, што даў назву зборніку, ранішні госць, як я зразумеў, — гэта правобраз самога аўтара, яго чалавечая існасць, з якой ён прыйшоў на гэты свет і якую хацеў бы зберагчы на працягу ўсяго свайго жыццёвага веку. Але ў тлумным сучасным свеце зрабіць гэта цяжка.

У некаторых вершах зборніка, як напрыклад "Нашчадку", "Вады нямала ў ступе тоўк", "У лабірынце", В.Сахарчук звяртаецца непасрэдна на нашай нялёгкай рэчаіснасці. Яго лірычны герой не можа заспакоіцца, чаму так перамяніўся свет, чаму "ізноў цікуе ўласны след Гамора і Садом, ператварыючы ўвесь свет у звар'яцелы дом". На гэтыя пытанні знайсці адказ няпроста. Роздум прыводзіць аўтара да думкі, што ў пошуках ісціны нельга ісці пратаптанымі сцежкамі. Прасцей за ўсё сказаць: "Віна ж за ўсё, як і раней, ляжыць на мёртвых..." На жаль, ніхто не хоча ўзяць на сябе асабістую адказнасць за тое, што "атрутай сталі паветра і вада", "што "не так усходзіць сонца... Не так шуміць калоссе", што "парою весняй пазначыла навекі чарнобыльскім таўром зямлю бяда".

Лірычны герой В.Сахарчука цесна знітаваны з пакаленнем, якому выпала жыць у складаную эпоху сацыяльных катаклізмаў. Ён добра зведаў тыя "суровыя межы", што абмяжоўвалі самавыяўленнё асобы. Яго верш "Не перайначыш выпадковым словам..." палемічны. Працяглы час наша грамадства развівалася не натуральным шляхам, а згодна з абстрактна вызначанымі праграмамі так званых геніяў-прарокаў, якія нярэдка сілай — насуперак псіхалогіі і натуральнага ўкладу чалавечага жыцця — здзяйснялі свае мэты. Аўтар добра разумее, што плынь жыцця бясконцая, а жыццё чалавека на зямлі — толькі імгненне ў вечнасці прыроды. Але яно — гэта імгненне — мае свае вымярэнні і якасці, яно не губляецца ў агульнай прасторы і плыні часу. Аўтар верша сцвярджае, што "лёс суровы межы жывому вызначае нездарма, бо і ад зор халодных мы залежым, і ад зямлі, радней якой няма..." Няможна штучна, нават з самымі высакароднымі мэтамі, выпрамляць плынь жыцця пакаленняў, як выпрамляюць рэчышчы рэк.

Лірычны герой В.Сахарчука шукае натуральнай паяднанасці з усім жывым, з цэлым Сусветам. Сваім гуманістычным зместам паэта прываблівае космас Багдановіча, таму эпіграфам да верша-трыпціха "Сам-насам з зорамі" ён узяў глыбокія па змесце радкі паэта: "Мы толькі зоркі, папутчыкі сярод нябёс". Лірычны герой В.Сахарчука не рамантычны летуценнік, -захоплены веліччу космасу, хоць яго дух, як некалі сказаў У.Дубоўка, "з сусветам гаворыць". Размова героя В.Сахарчука з зорамі зямная, сцішана-інтымная: "Боль у сэрцы нашу, ненавіжу, люблю..." І ўсё ад таго, што людзі і ў наш час "і слязьмі, і крывёй паліваюць зямлю", "даравання й прад смерцю не просіць тыран у мільёнаў бязвінных ахвяр". Але ж і ў прасторах Сусвету няма жаданага парадку і ладу: "...што гэта? Зорка дадому ляціць, пакідаючы вогненны след. Не хацела, напэўна, самотніцай жыць, і спаліў яе жорсткі Сусвет".

Лірычны герой В.Сахарчука пазбаўлены душэўнага спакою. У яго нават узнікае пакутнае адчуванне, што ён "на пакутнай радзіме сваёй жыве, бы ў чужой старане". Думаецца, што сённяшняя рэчаіснасць дае ўсё больш падстаў для такіх адчуванняў. З другога боку, своеасаблівая неўтаймаванасць, экспрэсіўная цяга да ўсяго добрага — гэта натуральны стан душы самога паэта. У вершах-імпрэсіях гаворыць пра свой будзённы тлум і спрэчку уласных пачуццяў і думак ("Тлум"), пра сваіх сяброў і ворагаў, якія "нібы арэхі-спарышы, жывуць у яго душы" ("Раўнавага"). За аснову свайго светапогляду паэт бярэ мудрую народную выснову: "Лепш рэшатам ваду насіць і мора паліваць, чым незмірымае мірыць і палюсы яднаць" ("Супрацьстаянне").

У некаторых вершах свайго зборніка В.Сахарчук звяртаецца да біблейскіх матываў. ("Балада самоты", "Сустрэча з Пілатам", "Сук і бервяно"). На мой погляд, глыбіня біблейскай мудрасці не знаходзіць у іх свайго паэтычнага развіцця. Старажытны міф застаецца толькі аналогіяй той думкі, што выказана ў творы.

У зборнік уключаны вершы, асноўны змест якіх часта выказаны ў форме дыдактычнай сентэнцыі, якая, на жаль, не можа прэтэндаваць на глыбіню, як напрыклад: "Споведзь вось табе мая: будзь заўжды такім суровым, каб не стаў камусь і я чалавекам выпадковым".

Зборнік "Ранішні госць" В.Сахарчука сведчыць пра пашырэнне жанравых абсягаў яго паэзіі. У ім змешчаны трыялеты, балады, прытчы, напоўненыя філасофскім зместам верлібры, а таксама паэма "Кропка на карце" ("Паэма неперспектыўнай вёскі") — першая спроба ў гэтым жанры. Сваім зместам паэма "Кропка на карце" добра ўпісалася ў новы зборнік, хоць і атрымалася некалькі расцягнутай.

Новая кніга В.Сахарчука засведчыла, што яе аўтар паспяхова пашырае абсягі сваёй творчасці, удасканальвае майстэрства.

**Аляксей МАЙСЕЙЧЫК**

*г. Брэст*

*Васіль Сахарчук. Ранішні госць. Мінск, "Мастацкая літаратура", 1994.*

# "ШТО ТАМ, ЗА ТОЙ РАКОЮ..."

## МАТЫЎ НЕВЯДОМАСЦІ Ў ВЕРШАХ НІНЫ МАЦЯШ

I

**Сонцам**
**Дзень пачынаецца.**
**Ясным сонцам адметны дзень, —**

дэкламую, нібы пяю, радкі з верша Н.Мацяш "Песня", і неяк нечакана для сябе нагадваю размову з трохгадовай пляменніцай Ганначкай:

**"Што бачыла ты ў сне?" — пытаюся.**
**"Сонейка!" — адказвае Ганначка,**
**а потым дадае: "Тату беленькае,**
**а мне — жоўценькае..."**

Чаму "сонейка" і чаму "беленькае" — здзіўляюся, і няўцям мне, што ў трохгадовым узросце дзіця яшчэ не ўмее фармуляваць свае сны і што "сонейка" — гэта нішто іншае, як фантазія Ганначкі, узятая з рэчаіснасці — светлы дзень яе сапраўднага жыцця.

Вось так, праз сон-рэчаіснасць трохгадовай дзяўчынкі я імкнуўся зразумець рамантыку Ніны Мацяш.

Для Ніны Мацяш, на маю думку, жыццё, адлюстраванае ў зборніку "Паварот на лета", — малітва, якая вельмі падобна на "разумную і неўгамонную" раку з верша "Жыла-была рака":

**Не адгаворвайце, — рака прасіла**
**Сваіх разумных, асцярожных сёстраў. —**
**Я маю знаць, што там, за гэтым лесам.**
**Я толькі гляну і назад вярнуся.**

Мне здаецца, гэтая просьба ракі падобна на клопат такога ж "разумнага і неўгамоннага", як рака, хлопчыка з вядомага верша Я.Коласа.

Бачна, што рака і хлопчык жадаюць аднаго: пайсці ў Невядомасць, каб "назад вярнуцца". Дзіўнае жаданне! Невядомасць — быццам тая Дульсінея Табоская, якой не існуе ў сапраўднасці і за якую патрэбна змагацца. Але ж Невядомасць, як сімвалічны знак рамантычнага светаадчування паэткі, цесна звязана з празаічнаю яваю, а матыў "вяртання назад" (трэба разумець — у знаёмае, надзённае, хваравітае і клапатлівае жыццё), бадай, асноўны.

II

У зборніку "Паварот на лета" паэтка выяўляе сябе не толькі як філосаф-рэаліст, але і як рамантык. Няцяжка заўважыць, што рамантычны герой Ніны Мацяш увесь час імкнецца да нябёсаў: "З самое зоркі дом сабе зраблю!" — нецярпліва заяўляе ён у вершы; "Так доўга чалавек глядзеў пад ногі..." Але паэтэса не можа даверыцца памкненню лірычнага героя — быць шчаслівым сярод Зорак, бо не ведае, "ці будзе ён шчаслівы, пакінуўшы Зямлю". І ўсё ж пошукі Неба на Зямлі і Зямлі на Небе ставяць героя (бунтара-філосафа), як і саму паэтку, перад праблемаю выбару: Зямля ці Неба, і выбірае герой Зямлю, якой так неабходна спраўдзіць, сцвердзіць сябе Небам? інакш кажучы — сцвердзіць сябе Невядомасцю, бо з ідэальна-філасофскага боку гледжання Зорнае Неба ў яго бясконцасці і ёсць Невядомасць.

Матыў падобнага сцвярджэння знаходзім і ў вершы "Скарга дзікай яблыні". Стыль жыцця дзікай яблыні нечым нагадвае цыганскую вольніцу, бо ёсць у ім і вольны вецер, і "прастора навокал", і "быльняговая" песня. Але ж такое жыццё яблыня-бунтарка лічыць "бязглуздым". У ім ёй "душна", і, каб уратаваць сябе ад адзіноты, яна імкнецца ў сад, "дзе вішанна, і яблычна, і грушна":

**Я ў сад хачу!**
**Я клопату хачу!**

Мара і рэчаіснасць у гэтых радках зліты ў адно цэлае. Яблыня жыве марай пра звышпрыгожае, звышбагатае і, мабыць, звышшчаслівае жыццё ў "садзе" і не ўяўляе гэтага жыцця без клопату надзённага.

Аднак паспрабуем перайначыць асобныя радкі верша так, каб яны загучалі ў лад малітве ракі:

**Я маю знаць, што там,**
**У гэтым садзе.**
**Я толькі гляну і назад вярнуся!**

Тады "сад" — гэта невядомасць, у якой можна забыцца. Толькі ці патрэбна шукаць шчасце ў гэткім садзе? Можа, наадварот?.. Вольны вецер на ўзмежку ды "быльняговая" песня і ёсць сапраўдны і, безумоўна, шчаслівы клопат яблыні, без якога б у яе не было і Невядомасці.

"У невядомасць цягне, бы ў смалу", — прызнаецца Ніна Мацяш у вершы "Чурлёніс. Дзень".

**Невядомасць кліча. Смала ж — спыняе.**
**Невядомасць — лёс. Смала ж — скон.**
**Невядомасць — жыццё. Смала —**
**барацьба за жыццё.**

Два несумяшчальныя, на першы погляд, вобразы паэтэса хоча ўраўнаважыць. Вобраз Невядомасці яна тлумачыць праз вобраз смалы. Смала — гэта жыццятворны агонь, у якім гарыш — і не згараеш.

Толькі ці мае на ўвазе паэтка агонь-смалу? Хутчэй смала — гэта каардынатар часу. Ліпкая і цягучая, яна, здаецца, запавольвае бег зямнога часу і на момант спыняе яго перад тайным вырысам Космасу, каб потым "назад вярнуцца" — з "касмічнага" нябыту ў час "зямны".

Невядомасць у паэзіі Н.Мацяш — з'ява філасафічная, як увогуле ў мастацтве. Вобраз невядомасці прываблівае многіх мастакоў, паэтаў сваёй жывапіснай недатыкальнасцю. Што там, у Невядомасці? Жыццё ці смерць?

Параўноўваючы невядомасць з рэчаіснасцю, Н.Мацяш хоча іх зблізіць, атаясаміць. Рэальнасць імкнецца ў Невядомасць, каб адрадзіць, абнавіць сябе ў ёй, а потым "назад вярнуцца" — да сваіх пачаткаў, прадстаўленых у зборніку перш за ўсё ў вобразах вады (рака), агню (смала), зямлі (сад), паветра (вецер) — вобразах, якія сімвалізуюць стыхіі рэальнага жыцця. Таму да Невядомасці ў вершах Н.Мацяш так хочацца дакрануцца, адчуць яе навобмацак.

**Алена ІГНАЦЮК**

*г. Брэст*

# АРТЫЛЕРЫЯ ПРАЖЫТЫХ ГАДОЎ

Аркадзь Капілаў — газетчык са шматгадовым стажам. Зараз — на пенсіі, але пяра не кідае. Піша нарысы, артыкулы. Сустракаецца з людзьмі, чые лёсы вабяць яго як журналіста і чалавека. А вынік тых сустрэч — інтэрв'ю, гутаркі, дыялогі. Піша А.Капілаў і мастацкую прозу. Друкаваўся ў часопісе "Нёман". А нядаўна пабачыла свет кніга вершаў А.Капілава "Старая скамейка". Сярод іншых твораў ёсць у зборніку і такое прызнанне:

**Опаснее бомб и крылатых ракет**
**Для нас артиллерия прожитых лет.**
**Известен заранее исход поединка:**
**Мы, словно под косами в поле былинка,**
**Ложимся покорно на разных широтах**
**В низинах, лесах, на полях и высотах.**

Верш кранае, прымушае задумацца над многімі акалічнасцямі жыцця.

Многія творы са зборніка вяртаюць у вайну ці нам, пасляваенным, адкрываюць грознае ліхалецце. Пэўныя душэўныя струны закранаюць такія вершы, як "Ноч у Чарджоу", "Балада пра яфрэйтара Купрыянава", "Заўтра вайна..."

Асобным раздзелам прадстаўлены тэксты васьмі песень ("Падары мне бабіна лета", "Крылатая пяхота", "Афіцэрскі вальс", "Цішыня над палігонам" і іншыя). Ужо самі назвы сведчаць, што большасць твораў — пра армейскую службу. І гэта не дзіўна. Будучы чалавекам цывільным, А.Капілаў доўгія гады працаваў карэспандэнтам газеты "Во славу Родины". На музыку згаданыя тэксты паклалі кампазітары М.Наско, В.Смыслоў, Я.Яравы, І.Пінхасаў.

Ёсць у зборніку і невялікая паэма "Эляшавец". Расказваецца ў творы пра просты, нічым не вызначальны лёс старога яўрэя, які заўжды працай сваёй служыў людзям. Служыў і ў час вайны. Пакуль не быў знішчаны фашыстамі разам з тысячамі суродзічаў.

**Слова рыданья и гвалт,**
**Улица стонет.**
**Бьёт беспощадный приклад**
**Элю в колонне.**
**А у дороги овраг:**
**"Здесь нас прикончат"**
**Что-то стрекочет.**
**Эля подумать успел:**
**"Точь-в-точь машинка".**
**И неуклюже осел**
**Сбитой травинкой...**

— так завяршыўся лёс Элі-шаўца. Так пайшлі з жыцця і тысячы, сотні тысяч яўрэяў.

Ёсць у кнізе са сціплай вокладкай і малюнкі. Іх аўтар — дачка паэта Марына Капілава здолела тонка перадаць настрой зборніка, яго паэтычны і душэўны характар.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# У КОЖНАГА СВАЯ ДАРОГА...

Калі зазірнуць у лімаўскія падшыўкі шматгадовай даўнасці, можна знайсці справаздачу з III з'езда пісьменнікаў Беларусі. Сярод іншых матэрыялаў змешчаны і даклад тагачаснага старшыні праўлення СП БССР П.Броўкі. Пятрусь Усцінавіч у раздзеле "Аб выхаванні маладых" зазначаў: "Усё часцей і часцей з'яўляюцца ў рэспубліканскім друку творы здольных пачынаючых пісьменнікаў А.Гарэліка, Н.Гілевіча, У.Ляпёшкіна, У.Нядзведскага, М.Арочкі, А.Ставера, А.Дземідовіча..."

Зацікавіла гэтае выказванне П.Броўкі і Юрку Голуба. Невыпадкова зацікавіла, бо былі на тое, як кажуць, падставы. З Аляксеем Дземідовічам ён добра знаёмы, разам працуюць журналістамі. Праўда, Ю.Голуб — на Гродзенскім абласным тэлебачанні, а А.Дземідовіч — на радыё. І, зразумела, абодва пішуць вершы. А тут надарылася Ю.Голубу магчымасць прадстаўляць чытачу намнога за сябе старэйшага А.Дземідовіча, рыхтуючы прадмову "Вершы з вёскі Жыціна" да яго першага паэтычнага зборніка.

І вось кніга "Калі шчырым быць..." прыйшла да чытача. Каб яна пабачыла свет, парупілася Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры. З прадмовы Ю.Голуба і можна даведацца пра жыццёвы шлях А.Дземідовіча. Родам ён са Старадарожчыны. З першымі вершамі выступіў, будучы студэнтам Мінскага бібліятэчнага тэхнікума імя А.Пушкіна. Калі служыў у арміі, яго падтрымаў Міхась Васілёк — пачаў друкавацца ў "Гродзенскай праўдзе". Закончыў Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я.Купалы, настаўнічаў на Свіслаччыне, а з 1966 года звязаў лёс з радыё. І па-ранейшаму піша вершы...

Лепшыя з іх і склалі гэты зборнік. У тым ліку і творы, напісаныя яшчэ ў 50-ыя гады, калі А.Дземідовіч захапіўся па-сапраўднаму паэзіяй. Шчырыя, непасрэдныя радкі, за якімі — адкрытасць душы лірычнага героя, яго жаданне падзяліцца набалелым. Тут жа і традыцыйныя радкі аб любасці да зямлі, якая нарадзіла і ўзгадавала, і матывы, народжаныя армейскімі буднямі.

І ўсё ж большую частку кнігі займаюць вершы, напісаныя аўтарам у апошнія гады. У адрозненне ад яго ранніх твораў, яны нясуць у сабе куды большы запал грамадзянскасці. Праўда, часам паэт пры гэтым быццам перабірае меру, на што, дарэчы, Ю.Голуб не прамінуў заўважыць: "Трэба аднак дадаць (ды гэта аматары паэзіі адчуюць і самі), што шматлікія вершы ў гэтым выданні можа залішне палітызаваныя, зроблены на бягучы момант".

Яно — так, але хіба можа А.Дземідовіч (а праз яго творы, як сказаў той жа Ю.Голуб, паўстае "асоба няўрымслівая, даволі неардынарная і, галоўнае, адкрытая, шчырая") спакойна назіраць за тым, што адбываецца? А адбываецца многае, як вядома, не так, як хацелася б. Ды і не заўсёды знойдзеш патрэбны адказ. Але калі пытанне пастаўлена, дык яно прымушае і іншых задумацца. А гэта ўжо — добрая якасць паэзіі: абуджаць думку.

А.Дземідовіч нарэшце мае кніжку. Што ж, літаратура складаецца не толькі з адных гучных імёнаў. Яна тым больш багатая, чым больш у ёй прадстаўнікоў. Балазе, сёння ёсць магчымасць друкавацца не толькі ў дзяржаўных выдавецтвах...

**А.М.**

Проза

Адам ГЛОБУС

# АЎТАПАРТРЭТ З РАЗБІТЫМ НОСАМ



АПАВЯДАННЕ

ЛЮБЛЮ стрыгчыся нагала. Каб ні валасінкі не заставалася. Каб прыгожыя акуратныя вушы паўставалі ва ўсёй далікатнай вытанчанасці. І хай шаноўныя сябры і сяброўкі не выказваюць захаплення арыйскім чэрапам, я, нікога не слухаючы, час ад часу буду стрыгчыся пад самы нуль. І не з-за таго, што баюся аблысець ці з-за кепскіх рэдзенькіх валасоў. Не. У мяне выдатны, густы, светлы чуб. Валасы крышку падвіваюцца і, калі адпусціць па плечы, дык вакол твара будуць пакалыхвацца дзюрэраўскія хвалістыя кудзеры.

Так звычайна пачынаюць маляваць фотаробат злачынцы. Спачатку валасы, потым абрыс твару, у ім акрэсліваюць вусны і нос, а заканчваюць вачыма дый асаблівымі прыкметамі.

У мяне ёсць адметнасць: невялічкая, бляклая татуіроўка. Яна хаваецца ў майтках. Пад маім пупком вырасла ружа, зусім маленечкая сіняя кветка. Вельмі яе люблю.

Сур'ёзна. Хто не ведае, дык не ўявіць, як балюча рабіць наколку на чуллівым месцы. На плечуку можна спакойна выбіць сто розных плеўчатакрылых драконаў. А на самым нізе жывата пакуль зробіш абрыс кволенькай кветачкі, ледзь не сканаеш. Боль пякельны.

Калі на тым свеце чэрці дазволяць мне працаваць у пекле, я ўсім грэшнікам параблю наколкі на эрагенных зонах. Яны пакайфуюць, яны пасінеюць ад радасці. Зраблю начальніцкі твар і скажу: "Гэта вам, гады печаныя, за грахі гнюсныя, недаравальныя і смяротныя!"

У мяне вельмі сур'ёзны абрыс твару, з цяжкой ніжняй сківіцаю. Валявы, мужны лік з нармальна пакрыўленым носам, які паправілі ў бойцы. І не на спартовай пляцоўцы ў рэгламентаваным двубоі, а ў вулічнай сутычцы, калі два двухногія не могуць мірна гаманіць. На цвярозую галаву выдатна разумею, што не трэба зневажаць, абражаць і крыўдзіць чалавека, таго самага двухногага без пёраў, з пляскатымі пазногцямі. А таксама не варта абражацца і крыўдзіцца самому. Ну каму трэба свая, а тым больш чужая крыўда з бядотамі? Ясней яснага — нікому.

Толькі розум не заўсёды бывае ў разважлівым і памяркоўным стане, асабліва калі ў страўнік залілося трыста грамаў гарэлкі. Тады, пад уздзеяннем спіртной пары ў маім дасканалым чэрапе адбываюцца неверагодныя рэчы. У адно імгненне з добрага, сціплага, разумнага ператвараюся, пераўвасабляюся ў жорсткага, злоснага, раз'юшанага бандзюгу. З разяўленага рота ліецца лаянка, сыплецца брэх, вылятаюць праклёны, а кулакі крышаць усялякія перашкоды. Чорт ведае што творыцца. Жах!

А нос ламаўся так... Спачатку я ціхенька выпіў у кавярні "Брыганціна", і не за столікам, а стоячы ў бары. Прыняў няшмат, грамаў сто. Піў з Уладзімірам, былым аднакурснікам па мастацкім інстытуце.

У горадзе панаваў добры настрой — сонца красавіцкае прыгрэла, зіма скончылася і сышла. Можна не зашпіляць паліто, хадзіць расхрыстаным і прыставаць да дзяўчатак. Пад такі настрой першыя сто грамаў заходзяць лёгка, як шып пад скуру. І не думаеш, што стрэмку давядзецца выкалупваць, раздзіраючы ранку іголкаю ды пінцэтам.

Мы выйшлі з цемнаватай, прапахлай рыбнымі стравамі "Брыганціны", крочылі ў бок пляца Перамогі і адзін аднаму расказвалі пра ўласную мастакоўскую геніяльнасць. Вельмі дарэчы нам трапіўся каля кавярні "Бярозка" яшчэ адзін геній канцэптуальнага жывапісу — Ігар. У краме закупілася таннае віно і сыр з хлебам. У Ігаравай майстэрні віно выпілася, а сыр разам з хлебам з'еўся дарэшты.

Мы паразглядалі Ігаравы палотны. Мы паразважалі пра нетры лірычнага абстракцыянізму, і ягоную неацэнную ролю ў маскавальнай афарбоўцы вайсковай тэхнікі. Мы паўзгадвалі вясёлыя часы мастацкага інстытута. Мы ап'янелі і, пахістваючыся, выйшлі на двор.

Я з Уладзімірам пайшоў у адзін бок. Светлабароды Ігар накіраваўся ў другі. Ігара, ён прызнаўся, чакала нявеста з ласкавым прозвішчам Бажок. Ігара, ён сказаў, чакала жанчына. А мяне з Уладзімірам падпільноўвала зусім іншая сустрэча.

Мы кіраваліся на тралейбусны прыпынак, а на шляху, каля таксафоннай кабінкі, таўкліся хлопцы — два большыя і меншы. Вялікія навісалі над малым, так перуновыя хмары навісаюць над лясным спакойным азярцом. "Біць будуць!" — сказаў я Уладзіміру, і той пагадзіўся.

У п'янага мужчыны смеласці поўныя кішэні. І я ў шэрым расшпіленым палітоне падляцеў да агрэсіўных асілкаў і нагадаў, што крыўдзіць меншых, слабейшых, адзінокіх — малапачэсны і зусім не рыцарскі занятак. Большыя пагадзіліся й прапанавалі забраць на доўгую памяць меншага. Яны сышлі, пасмяяўшыся на развітанне і прадэманстраваўшы ў знак прымірэння выдатныя, буйныя, чыстыя зубы.

Мы ўтрох засталіся стаяць. І тут выратаваны чалавек дастаў з кішэні правую руку. На ёй ззяў выдатны сталёвы кастэт з чатырохкантовымі шыпамі. "Дарма ўлезлі, я б ім зараз морды паразрываў. Паглядзі, якая цацка! Адзін раз шваркнеш, і на ўсё жыццё памятка будзе! А вы не ў час прысунуліся". Мярзотны тварык зморшчыўся, хлопец чыхнуў.

Я з Уладзімірам перамігнуўся — пара сыходзіць. Вельмі разумная была думка, паціху дыстанцыравацца ад уладальніка халоднай зброі. Толькі сысці не паспелі, хлопец учапіўся ў маё рукаво і горача зашаптаў пра ўласную злосную жонку, у якой ёсць прыхаваная пляшка гарэлкі. Хлопец паабяцаў, што калі зойдзем да яго ў госці, дык гарэлка абавязкова выставіцца са схованкі на пачастунак.

Жыў ён тут жа, на пляцы Перамогі, у доме з хлебнай крамаю. Мы ўзняліся на трэці паверх. Хлопец пазваніў. За дзвярыма пачулася асцярожнае шапаценне. Нехта зіркнуў у вочка і заціх. Хлопец званіў яшчэ разы са тры. Пакуль за дзвярыма не ўсчалася лаянка, якую сыпала й сыпала нябачная істэрычка. Яна прапаноўвала як мага хутчэй сысці ад кватэры, інакш выкліча міліцыю, і нам гарантавана затрыманне і пятнаццаць сутак зняволення. На яе лаянку хлопец адказаў такім жа раз'юшаным брэхам. Яны лямантавалі на ўвесь пад'езд, на ўвесь дом, на ўвесь пляц Перамогі над фашызмам. У мяне не ўзнікала і ценю сумнення, што сварацца вельмі блізкія людзі. Родная кроў ёсць родная кроў. Яна праявіцца, як ні хавайся за дзвярыма.

Раптам брахуны сціхлі. І я так здзівіўся цішыні, што не думаючы спытаўся: "Што ты за чалавек, калі цябе не пускаюць ва ўласную кватэру?" "Паўтары!" — запатрабаваў крыкун з кастэтам. А мне было пляваць на зброю, на ганарыстасць і на істэрычку за дзвярыма, таму пытанне паўтарылася. У п'янага мужчыны смеласці поўныя закарвашы. Хлопец спакойненька прапанаваў пабіцца ў двары. Яму было наканавана пабіцца. І я дарма адстойваў маральнасць каля аблупчаных таксафонаў. Каб ведаў, дзе ўпадзеш, дык падаслаў бы паралону. А так давялося выходзіць у начны двор і змагацца.

Уладзімір спрабаваў нас мірыць. Ён станавіўся паміж намі, але своечасова зразумеў: двое дурняў перамогуць аднаго. Уладзімір адышоў у цемру і закурыў.

Няпушчаны дамоў паскуднік прапанаваў ударыць яго па мордзе. Я не з тых, каго доўга ўгаворваюць. Я шаснуў правай пад левае вока. Ён упаў. Ускочыў. Выхапіў кастэт. І пайшоў на мяне, нібыта не ведаў, што я трупну ў пысу. Яму давялося зноў уставаць і пачынаць бойку. Толькі маё трыванне, мой добры настрой, мае чалавекалюбскія намеры выветрыліся, як клубы тытунёвага дыму з альтанкі ў ветраны вечар. Я збіў паскудніка з ног. Я прыціснуў каленам да асфальта руку з кастэтам і кулаком растоўк азвярэлы тварык. А потым устаў і пайшоў праз ціхі двор у бок парку культуры і адпачынку імя Горкага.

"Мянты!" — дагнаў мяне Уладзіміраў вокрык. Раптоўны страх шылам праццяў нутро, нават сінія пялёсткі ледзь не абляцелі з таемнай вытатуіраванай ружачкі. Развярнуўшыся на сто восемдзесят, я пабег. Ляцеў ледзь кранаючыся зямлі, перамяшчаўся ў прасторы велізарнымі скачкамі. Адно з прызямленняў трапілася якраз каля нерухомага цела. Я зачапіўся за паскудніка. Упаў на рукі і садраў скуру з далоняў. Рукі трапілі на вадасцёчны люк, а вось тварам я рэзнуўся аб высокую броўку. Нос разваліўся, разлезся і размазаўся па твары, як печаны яблык. Давялося згрэбсці ў жменю тое, што было арыйскім носам, і спытаць ва Уладзіміра, выплёўваючы кроў: "Што рабіць?" Той прытупваў на адным месцы так, нібыта да смерці хацеў у прыбіральню. З захлёбістых рэплік вынікала адно — трэба ўцякаць.



З цёмнага двара мы выскачылі на светлы пляц Перамогі, прагарцавалі міма газавай гарэлкі вечнага агню і падбеглі да таксовачнага прыпынку, дзе гула вялікая чарга прагнаных з рэстарацыі весялуноў.

Тут сілы і пакінулі мяне. Душа выляцела з цела. Яна з цікавасцю назірала, як я ў залітым крывёю палітоне, пахістваючыся, падышоў да сметніцы і прысеў. Душа, пэўна, з-за шкадобы вярнулася.

Жахліва забалеў раскроены нос.

Падышла таксоўка. Уладзімір у двух словах распавёў чарзе, што нас пабілі бандыты, а цяпер за намі гоняцца міліцыянты. Народ зразумеў. Народ у роўнай ступені не любіць і тых, хто парушае парадак, і тых, хто наводзіць. Таксоўшчык паставіўся да маёй разбітай морды са спачуваннем і даў газету "Звязда", каб кроў не капала на сядзенне. "Мне ж яшчэ цэлую ноч катацца!" Яго можна зразумець.

Усіх можна зразумець.

І маю жонку варта зразумець, яна крычала і парывалася выклікаць дактароў. Уладзіміра трэба зразумець, ён нават не заходзіў у кватэру і з'ехаў дамоў на той жа ж таксоўцы, на якой мы прыехалі. Суседку таксама пажадана зразумець, старую, пабітую хваробамі і бяссоннем, яна грукала ў сцяну: маўляў, гадзіна ночы і паводзьце сябе прыстойна ці хоць бы ціха. Усё зразумела. А я, дарэчы, паводзіў сябе ціхамірна. Памыў халоднай вадою галаву разам з тварам і разваленым носам. Потым як мог, так і зляпіў пальцамі родны, гарачы, змучаны нос. Тое, што атрымалася, замазаў слінаю з чорным муміём, а наверх начапіў пластырную стужачку.

Ламанне носа запамінаецца на ўсё астатняе жыццё.

Асабліва помніцца раніца. Пахмельнага сіндрому не было, галава не балела, не хістала і піва не хацелася. Было значна горш. Я паміраў ад жаху, бо набраў у галаву дурных думак. І адкуль толькі ўзялося перакананне, што паскуднік са сталёвым кастэтам здох. Што, б'ючы, не заўважыў, як забіў, як забраў жыццё ў чалавека. Чорныя ўяўленні абступілі свядомасць, як варожае войска, што закальцоўвае горад у аблогу. Я паціху шалеў і звар'яцеў бы канчаткова, каб не затэлефанаваў міліцыянту Павалу. "А, як хвост прыцісне, так да паліцыянтаў прыпаўзаеце!" Я згодны быў слухаць і горшае, каб толькі прасвятліць наступствы начнога здарэння.

"Трупаў з раёна пляца Перамогі ў моргах не зарэгістравалі. Скаргаў на бандытаў, што дэбашырылі каля хлебнай крамы, ніхто не пісаў". Я сядзеў на падлозе, слухаў Павалаў голас і кайфаваў.

"Як мала чалавеку трэба для задавальнення!" — сказаў я тады люстэрку, з якога пазірала бяскроўная, мучністая маска з бэзавымі мяшкамі пад вачыма.

Палітон вельмі лёгка адмыўся. Я апрануўся і пайшоў гуляць па горадзе. Засунуў рукі ў кішэні і шпацыраваў. Я быў найшчаслівейшым з людзей. Сіняя ружачка распусціла ўсе свае пялёсткі. Сустрэчныя ўсміхаліся. Мой выгляд смяшыў і ўдначассе выклікаў спачуванне. І я, канешне, не пайшоў да доктара, каб не чуць дурных пытанняў. "А хто гэта вас так апрацаваў? А ці ня хочаце напісаць заяву ў праваахоўныя органы?" І на працу, у свае родныя камісійныя крамы не пайшоў. І не маляваў шыльдачкі: "Не аформленае", "Прададзенае", "М" і "Ж".

Прагуляў цэлы дзень навылёт, і не шкадую. А на вечную памяць пра шчаслівы вясновы дзень застаўся шнар на крываватым носе.

Вось так паціху намаляваўся аўтапартрэт. Звычайная, шэранькая, можна сказаць, знешнасць. Колер маіх светлых вачэй таксама шэра-блакітны. Але я ніколі не саромеюся ўласнай знешнасці.

Мастак Ігар аднойчы сказаў, што ў мяне вельмі паэтычная хада. Толькі гэта няпраўда, бо крок у мяне цяжкі, самаўпэўнены, міліцыянскі. Калі іду, дык здалёк відаць, што дарогі не саступлю.

# ВЯРТАННЕ НА ПРОЙДЗЕНЫЯ ДАРОГІ

**16 кастрычніка М. Залознаму споўнілася б 70 гадоў. На жаль, вось ужо трынаццаць з іх яго няма з намі. Мастак пайшоў з жыцця 7 красавіка 1982 года ў самым росквіце сіл.**

**Дарэчы, наша зямля стала для М. Залознага роднай, а нарадзіўся Мікалай Рыгоравіч на Украіне, у вёсцы Княжычы Броварскага раёна. Большую частку свайго жыцця звязаў з Беларуссю. У 1959 годзе скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут і пачаў працаваць выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы, а затым выкладаў і ў інстытуце.**

**Працаваў М. Залозны ў галіне тэматычнай карціны, пейзажа, партрэта, нацюрморта. Значнае месца ў яго творчасці заняла тэма Вялікай Айчыннай вайны. Увогуле ж, калі гаварыць пра яго набыткі, то нельга не згадаць такія творы, як "Вызваленая", "Зямля", "Перамога", "Возера Селява", "Цюльпаны" і іншыя.**

**Лепшыя работы Мікалая Рыгоравіча прадстаўлены ў нацыянальным мастацкім музеі. Экспазіцыя прымеркавана да 70-годдзя з дня нараджэння творцы.**

# "СПЯВАЙЦЕ, СЯБРЫ!"

**У слуцкім выдавецтве "Дзіва" накладам 5 тысяч паасобнікаў выйшаў у свет спеўнік беларускіх і рускіх песень. Укладанне зрабіў Аляксандр Іосіфавіч Сурмачэўскі. Акрамя народных песень, у зборніку прадстаўлены песні на словы Н.Гілевіча, У.Карызны, В.Вярбы (музыка М.Пятрэнкі, Э.Ханка, Л.Захлеўнага, П.Шыдлоўскага і інш.).**

**З. В.**

# КАРЭЛІЦКІ КНІГАЛЮБ

**У цыкле "Сустрэчы з цікавым чалавекам" адбылося знаёмства чытачоў Карэліцкай цэнтральнай бібліятэкі П. Саўчыкам, з чалавекам, які з ранняга дзяцінства ўлюбёны ў кнігу, чытанне, мае вялікую ўласную бібліятэку, працуе настаўнікам Баранчанскай школы.**

**Кнігі Пётр Паўлавіч пачаў збіраць яшчэ да вайны. На вялікі жаль, першапачатковы збор у гады вайны загінуў. Але гэта не перашкодзіла здзейсніць дзіцячую мару — мець добрую ўласную бібліятэку. Яшчэ ў студэнцкія гады ён падпісаўся на Вялікую Савецкую Энцыклапедыю. Грошы на кнігі прыходзілася зарабляць і даволі цяжкай працай: пілаваць дровы, разгружаць вагоны.**

**Вынік гэтай карпатлівай працы па набыцці літаратуры — цудоўны. Прыватны кнігазбор па колькасці роўны любой сельскай бібліятэцы, а па каштоўнасці — паспрачаецца з імі.**

**Да гэтага часу Пётр Паўлавіч у моцным сяброўстве з кнігай. Чытае, як кажуць, запоем. Цудоўныя, незвычайныя мясціны, з якімі пазнаёміўся па кнігах, яму захацелася ўбачыць. Ён наведаў дваццаць краін свету: Англію, Індыю, Лаос, Кувейт, вандраваў па Аравійскай пустыні, быў на Канарскіх, Полеадскіх, Арктычных астравах, бачыў тайгу і тундру ў першароднай прыгажосці. Былы Саюз праехаў удоўж і ўпоперак, падарожнічаў на байдарках, шлюпках і нават на... вярблюдах.**

**Любоў да кнігі прынесла яму і новае хобі: нумізматыку і філатэлію.**

**Пётр Паўлавіч не толькі любіць і ведае кнігу, але і з'яўляецца яе апантаным папулярызатарам. На працягу трох месяцаў у чытальнай зале Карэліцкай цэнтральнай бібліятэкі дзейнічала выстава рэдкай кнігі з прыватнага кнігазбору карэліцкага кнігалюба. На ёй былі прадстаўлены многія каштоўныя выданні з яго калекцыі.**

**Л. ТУРМАСАВА,**
**загадчык аддзела бібліятэказнаўства Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага**

# "...ЯНА ВАЧАМ ВІДНА ЗАЧАРАВАНЫМ..."

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БЕЛАРУСІ ГАЛІНЫ ТАЛКАЧОВАЙ

КАЖУЦЬ, што найпрыгажэйшая поза бывае ў дзяўчынкі, калі яна прыўзнімаецца на дыбачкі, каб дацягнуцца да ружы. Ружа вабіць маленькае жаночае сэрца, якое здагадваецца і нават інтуітыўна ведае, што гэта для ружы, для пунсовага або бледна-жоўтага бутона на досвітку свістаў і шчоўкаў салавейка, нібы маліў і ўгаворваў яго распусціцца і раскрыцца ў кветку: "Свае красы не ведаеш ты ўсёй..." І потым, калі дзяўчынка наблізіцца да паўналецця і ёй давядзецца над ружаю схіляцца, яе постаць, бывае, захоўвае штосьці няўлоўнае ад тае дзіцячай грацыі, з якой яна, яшчэ дзяўчо, цягнулася на дыбачках да ружы, апетай салавейкам. Адораную гэтым маладую жанчыну Янка Брыль, напрыклад, называе элегантна-велічнай у сваёй жаноцкай прывабнасці.

Калісьці вось так мы разважалі з маім сябрам Ізідорам Нісневічам. Ён быў педагогам тагачаснага тэатральнага інстытута. І толькі я прамовіў тое брылёўскае "велічна-элегантная", як Ізя ўсклікнуў: "У нас на выпускным курсе ёсць такая актрыса — Галя Ваксман!" Яшчэ выпускны — і ўжо актрыса? Але, так яно і было. Неўзабаве мы з І.Нісневічам і рэжысёрам М.Троіцкай зрабілі радыёспектакль "Ля сіняй бухты", прыдумаўшы на падставе аднаго вуснага апавядання слыннай Цёці Уладзі, Купалавай удавы, рамантычную гісторыю кахання Максіма Багдановіча. Ялта, пошум марскіх хваль, цені кіпарысаў, белакрылыя чайкі, водар духмяных гронак гліцыніі — і "ён" і "яна". Яна — Вераніка. На гэтую ролю і запрасілі маладзенькую Галю Ваксман.

І перш чым убачыць яе на сцэне, я пачуў гэты пералівісты голас з прытоенымі інтанацыямі нейкай дзівоснай шчырасці, па-жаночы палахлівай і таму часам хаваемай за жартаўлівай іроніяй або пад недарэчнай паўзай, пасля якой можа прагучаць нешта падобнае на паспешліва-няўцямнае лапатанне. Я не адзін раз слухаў тую перадачу і лавіў сябе на тым, што гэта мае, мной напісаныя на паперы словы, прыдуманыя для персанажа радыёп'есы. І ў той жа час яе — жывой Веранікі, якой паўстае перад мікрафонам актрыса Галіна Ваксман. Яна і раскрывала нешта загадкава жаноцкае ў характары гераіні, а голасам, дазволю сабе так сказаць, жывапісала ў эфіры яе выгляд, настрой, рух.

Калі тое было, божухна! Цяпер гэтая актрыса — адна з вядучых у трупе Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Галіна Талкачова. Народная — такая нададзена ёй ганаровая годнасць. Гэтыя два паняцці — "вядучая" і "народная", мабыць, сведчаць пра тое, што пэўны ўзровень артыстычнай культуры тэатра вызначаецца і падтрымліваецца і яе намаганнямі, яе творчымі адкрыццямі, яе выкананнем роляў, густам і манерай паводзін у мастацтве. Тэатралы, пачуўшы імя Г.Талкачовай, адразу прыгадваюць свае ўражанні ад яе тэмпераментных паглыбленняў у жаночы свет. Я кажу "свет", маючы на ўвазе тую псіхалагічную адметнасць і той кшталт чалавечай асобы, якія прырода цалкам аддала ім, паводле нашай звычкі даваць такое найменне прадстаўніцам лепшай паловы чалавецтва.

Я знаёмы з творчасцю актрыс, якія ў сваёй сцэнічнай працы па-мастацку асэнсоўваюць і выводзяць на падмосткі носьбітак пэўных людскіх якасцей наогул: "скнара" ў спадніцы, "фарсун" у спадніцы, "валацуга" ў спадніцы, "падлізнік" у спадніцы, "кар'ерыст" у спадніцы, "спрытнюга" ў спадніцы... Ды зваблівым святам сустрэчы з сапраўднай актрысай бывае створаны ёю жаночы тэатральны вобраз, які далучае нас да пакут і да радасці, да летуценнай надзеі на блізкае шчасце і да пакутлівых расчараванняў у тым, каго яна ж сама вызначыла для сябе як куміра, ідэальнага мужчыну, бездакорнага сярод усіх Адамаў на зямлі. З актрысай, якая прызнаецца праз свой сцэнічны персанаж у тым, што ёй, жанчыне, лягчэй справіцца з папрокам уласнага розуму і з абвінавачаннем свайго ж сумлення, чым угаварыць, улагодзіўшы, сваё сэрца. Калі глядзіш спектакль з такой актрысай у галоўнай ролі, прыгадваеш шэкспіраўскага Анджэла ("Мера за меру"), які звяртаецца да жанчыны: "...Вы толькі заставайцеся тым, што вы ёсць. Але, жанчынай, — і не болей. Інакш вас на нішто звядзе суровы лёс..."

Як дасягаецца падобны творчы стан у артыстычнай творчасці, адказаць цяжка. Ці то чалавек свядома пачынае ўдаваць з сябе гордую і пакрыўджаную натуру, ці то па інтуітыўнай здагадцы робіць тое, што наканавана талентам. Вось і Галіне Талкачовай я не задаю пытання пра гэтую асаблівасць яе жыцця на падмостках. Яна — такая! І тады, калі яе персанаж балансуе на мяжы вульгарнай прагавітасці або не ў сілах утаймавацца і скрыць пачуццёвых прэтэнзій, як гэта было ўласціва яе Ірэн Прыбытковай ("Апошняя ахвяра" А.Астроўскага) ці Клемянціне ("Забыць Герастрата!" Р.Горына). І тады, калі яна паўставала ў святле рампы духоўна чыстай і знарочыста грубаватай сцюардэсай Наташай ("Яшчэ раз пра каханне" Э.Радзінскага) або чарнявай юнай пакутніцай, якую акрыляе ахвярнае каханне да яе сапраўды мужнага хлопца, Інгай ("Выклік багам" А.Дзялендзіка). І тады, калі Г.Талкачова малюе жаночы характар, быццам створаны прыродай свавольным, з капрызамі, наравістым накшталт публічнай дзеўкі з падваротні на Броннай Насцёны, якая сама жыве ў летуценнях незаплямленай доляю каханай, а ў сутычцы з начлежным сваім партнёрам Баронам здзекліва выкрывае гэтага прадажнага дармаеда так, што з яго ссоўваецца арыстакратычная маска ("На дне" М.Горкага)...

Актрыса вельмі выразна выпраменьвае вачыма нешта такое, што і змясцілася ў прамоўленых ёю словах гераіні, і трымціць у падтэксце, чаму або няма наймення, або жанчына яго не ведае. Вочы кранальна ўсміхаюцца, але часцей прыкоўваюць да сябе ўвагу такім чынам, што табе раптам тужліва робіцца на душы. Магчыма, у іх не згасае водсвет, як мне здаецца, не па-дзіцячы перажытых наяве незвычайных узрушэнняў і моцных хваляванняў. Ад такіх перажыванняў на душы, у гэтым недаступным для нашага розуму, нават уяўным ёмішчы, дзе месціцца нашае "Я", застаюцца такія ж прывідныя і надта балючыя шрамы.



*На здымку: Галіна ТАЛКАЧОВА і Аўгуст МІЛАВАНАЎ.*

*Фота А. МАЦЮША.*

Калі мы глядзелі прэм'еру "Выкліку багам", помню, нас нібы апякло адчуванне сапраўды перажытай Інгай балючай пакуты. Гэтая наўрад ці вылечная хвароба, што не дае гераіні ні на хвіліну забыць пра пагрозу смерці, і злавесная лічба-нумар на запясці, бы тое таўро, выкалатае знаўцам сваёй справы з Асвенціма або Бухенвальда... І дрыготкі пералівісты голас спавядальнага сэрца... Змярцвелая глядзельная зала адчула, што так паказаць Інгу на сцэне можна, перадаўшы ёй нешта вельмі асабістае, перажытае актрысай.

Мабыць, і пра гэта я не буду ў яе пытацца. Бог мой, ці ж маглі абмінуць гора і жалоба мінскую дзяўчынку, калі яе, васьмігадовую, зацягваў у свае нетры ашалелы і ліхаманкава бязлітасны вір вайны! І, канешне, не раз нясцерпна шчымлівая маркота клала ёй на плечы сваю калючую знобкую руку...

Якой бы гарэзлівай або легкадумнай, дураслівай або скандальнай, бядовай або хітрушчай ні была гераіня Г.Талкачовай, актрыса знойдзе момант, каб у яе вачах... у разгоністым ці надломаным голасе... у нечаканым роздуме ў паўзе... выступіла наверх неадчэпнае прадчуванне жанчынай якоесьці немінучай напасці. Партнёры па сцэне часта па-творчы ўспрымаюць падобныя праявы ў ёй жаноцкай сутнасці і неўпрыкмет для сябе рэагуюць на іх. Асабліва маляўнічыя і псіхалагічна супярэчлівыя дыялогі вядзе Г.Талкачова, як мне здаецца, з А.Мілаванавым. Дастаткова прыгадаць іх разам у "Памінальнай малітве" паводле Шолам Алейхема, у спектаклях "Яшчэ раз пра каханне", "Святая святых", "Месье Амількар, або Чалавек, які плаціць", "Зацюканы апостал". Драматызм жыцця, драматызм жаночага лёсу адзначаецца сэрцам актрысы, як сейсмографам.

Шчыра прызнаюся, што якраз Галіна Талкачова аднойчы зрабілася віноўніцай майго расчаравання ў слыннай п'есе "Аптымістычная трагедыя" Ус.Вішнеўскага... Яшчэ параўнальна нядаўна я са шчырым захапленнем дзяліўся сваімі ўражаннямі ад выступлення ў ролі Камісара Аляксандры Клімавай у Рускім тэатры, ледзь не захлыпаючыся словамі пра р-р-рэвалюцыйны подзвіг самаахвярнай жанчыны, якая... І вось Камісарам на беларускай сцэне паўстала перад гледачом Г.Талкачова. Не, яна ўсё рабіла так, як прадугледжана было драматургам, і не скажала рэжысёрскай задумы. Ёй толькі па-акцёрску не надта свабодна было вымаўляць самыя рашучыя рэплікі, загадваць, хапацца за рэвальвер, узнімацца вышэй прафесійнага вайскоўца ў пытаннях тактыкі і субардынацыі ў матроскім атрадзе. Камісар аказаўся не свабодамыснай асобай. Адчуваўся разлад паміж вытанчанай жаноцкай натурай і абранай ёю пасадай. Мажліва, гэта прабівалася насуперак нават творчым імкненням Г.Талкачовай, але і пераступае біблейскія запаведзі гэтая жанчына ў камісарскай скуранцы, пераадольваючы нешта ў самой сябе надта злачынна.

Яшчэ і той час у нашым грамадстве (семдзесят сёмы год), мабыць, ужо вымагаў, каб мы задумваліся над прапанаванымі нам трактоўкамі паводзін чалавека ў рэвалюцыі і на вайне. Задумваліся — без ідэалагічных шор. Ва ўсякім разе менавіта ў выкананні Г.Талкачовай асабіста я адчуў, што не ўсё апета і праслаўлена Ус.Вішнеўскім сумленна ў гэтай выдатна зробленай ім п'есе. Мне ўпершыню падумалася, што наогул жанчына робіцца тэрарыстам, рэвалюцыянерам, функцыянерам падполля, камісарам з прычыны нейкіх комплексаў, няўдачлівая ў натуральных сваіх жаноцкіх памкненнях і жаданнях. Не, гэта было не наўмысна падказана нам Г.Талкачовай, а вынікала з сутыкнення глыбока праўдзівай актрысы з апяваннем у жанчыне таго, што апяваць з замілаваннем — грэх.

Я пішу свае нататкі пра гэтую актрысу з нагоды майго захаплення ёю ў спектаклі "Лес", прэм'ерай якога купалаўцы сёлета завяршалі сезон напярэдадні свайго сямідзесяціпяцігоддзя. Якая нечаканая паўстае ў спектаклі, пастаўленым В.Раеўскім і А.Мілаванавым, Раіса Паўлаўна Гурмыжская! Жанчына ў гадах, але маладая душой. І ззяюць вінавата-гарэзліва яе вочы, і губы стрымліваюць жвавую ўсмешку. Ёй уласцівы прывабліва багемны шарм. Лясная жыхарка, гэтая Гурмыжская, якой яе адчула і зразумела Г.Талкачова, і ў Парыжы бывае, і за модамі сочыць. І — галоўнае — марыць кахаць і быць каханай. А гэтага ёй адтэрміноўваць, як той казаў, — ані: карціць, каб любы паспачуваў, падтрымаў, адазваўся, і не калі-небудзь, а сёння, зараз і вось тутака, у маёнтку "Пянькі", у зялёнай засені ляснога Эдэма.

Гурмыжская ў Г.Талкачовай нібы мастацкі папярэднік вобраза талстоўскай Ганны Карэнінай і асабліва чэхаўскай Любові Андрэеўны Ранеўскай з яе дачай у далёкай Ментоне і парыжскім каханкам. Як ні дзіўна, але з жанчын падобнай адметнасці мы чамусьці не хацелі б змываць жоднай "плямы": тады аблічча дзіўна чароўнай грэшніцы нешта згубіць. А мы, бывае, гатовы паўтарыць за Байранам, які вуснамі Сарданапала абяцае кахаць улюбёнку яшчэ больш за тое, што яна падначальваецца сваёй натурыстай прыродзе, нават не ладзяляючы ягонага лёсу.

Мне не хапае тэатразнаўчых тэрмінаў для доказу дакладнасці майго ўспрымання гэтай актрысы. Лепей я прыгадаю яшчэ раз тут Карэніну. Ці помніце вы тую мясціну ў рамане, дзе Ганна Аркадзьеўна, "...спыніўшыся і зірнуўшы на хісткія ад ветра вершаліны асіны з абмытымі, ярка зіхатлівымі на халодным сонцы, лісцямі,.. зразумела, што яны не даруюць, што ўсё і ўсе да яе цяпер будуць бязлітасныя, як гэтае неба, як гэтая зеляніна". Я апладзірую і крычу: "Брава, актрыса Талкачова!", калі яна і вось т а к акідвае позіркам на сцэне ўрачэбны кабінет або белахмарнае неба, алькоў у доме прывабнага выбранніка або тую пунсовую ружу з кропелькамі расы. І — з вострымі шыпамі. Нешта большае, чым артыстычнае майстэрства, угадваецца тады ў яе таленце, сугучным жаноцкай сутнасці мастака.

**Барыс БУР'ЯН**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## "І ГОРЫ ВАКОЛ ЯГО..."



**так называецца выстаўка ізраільскай графікі, прысвечаная 3000-годдзю старажытнага горада Іерусаліма, што адкрылася ў Віцебскім мастацкім музеі. Перш чым трапіць у Беларусь, карціны ўжо выстаўляліся ў Бельгіі, Галандыі, Францыі, у краінах Балтыі.**



**Пазнаёміўшыся з работамі, можна ўбачыць прыгажосць старажытнага Іерусаліма і яго наваколляў, спасцігнуць разнастайнасць стыляў і школ сучаснай ізраільскай графікі і жывапісу.**

*На здымках: на выставе "І горы вакол яго...", "Куток старога Іерусаліма" — Айрагам Хай.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

## "АСЕННІ ЗОРКАПАД" —

**так называецца новая праграма, якой Гомельскі цырк адкрывае свой 24-ы сезон. Жыхары вобласці і госці горада могуць убачыць выступленні зорак Расійскага і Украінскага цыркаў.**



*На здымку: у час прадстаўлення "Асенні зоркапад".*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

# ФАКТЫ — РЭЧ УПАРТАЯ

## З НАГОДЫ АДНАГО САЦЫЯЛАГІЧНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ

Сусветны этнавыбух нярэдка вядзе да сацыяльнага калапсу. Параметры яго цяпер вывучваюцца многімі спецыялістамі-гуманітарыямі, у тым ліку і сацыёлагамі. У Беларусі гэтай праблемай на працягу некалькіх гадоў займаецца Інстытут сацыялогіі АН Рэспублікі Беларусь, пераважна яго аддзел сацыялогіі культуры.

У 1989—90-ых гадах сацыёлагі Акадэміі навук сумесна з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору прынялі ўдзел у рэспубліканскім даследаванні "Міжнацыянальныя адносіны". Было распаўсюджана 2365 анкет, якія потым апрацаваны на ЭВМ, прааналізаваны атрыманыя вынікі. Праўда, гэтае даследаванне не было ідэальным, у ім былі асобныя недахопы, аднак на той час яно было адзіным у нашым рэгіёне і ўжо таму ўяўляла сабой вялікую цікавасць для навукі і практыкі.

Вядома, сітуацыя за мінулыя гады змяніліся, бо змяніліся дзяржаўна-палітычныя ўмовы. Усё гэта не магло не паўплываць на этнакультурныя працэсы, нацыянальную арыентацыю, самасвядомасць, на грамадскую свядомасць увогуле.

У Інстытуце сацыялогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь разумелі неабходнасць далейшых сацыялагічных даследаванняў этнакультурных працэсаў, але, на жаль, агульная сітуацыя з фундаментальнай навукай была ў той час вельмі цяжкай. Карацей кажучы, мы былі на мяжы катастрофы, нам пагражала амаль татальнае скарачэнне. Дзякуй Богу, да поўнага развалу не дайшло. Мы ўдзячны Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных зносінах Вярхоўнага Савета на чале з М. Слямнёвым за своечасовую дапамогу, і хоць гэта былі невялікія для сацыялагічнага даследавання сродкі, але і яны далі нам магчымасць не перапыняць даследаванняў, засяродзіўшы іх у канкрэтным рэгіёне (Заходняе Палессе).

Працэсы распаду СССР па-рознаму паўплывалі на розныя рэгіёны, у якіх "суверэнізацыя" мела розныя карані, прычыны і вынікі. На думку некаторых замежных сацыёлагаў, узнікненне незалежнай дзяржавы Беларусь — хутчэй вынік распаду СССР, чым барацьбы беларусаў за незалежнасць, у гэтым яны бачаць асаблівасць тутэйшых этнапрацэсаў. Ёсць і іншыя думкі. Ясна адно: незалежнасць ініцыіруе "адраджэнне".

Міжнацыянальныя адносіны не існуюць у пустэчы, яны праяўляюцца ў пэўнай сацыякультурнай прасторы, дзе існуюць пэўныя звычаі, правілы, настрой, словам, менталітэт народа гэтай краіны.

*Пра беларусаў заўсёды гаварылі, як пра* спакойны, талерантны народ. Гэта пацвярджаецца і сацыялагічнымі дадзенымі. Так, па даследаваннях, праведзеных у 1989—90-х гг., 83 працэнты апытаных выказалі роўныя адносіны да людзей любой нацыянальнасці, што жывуць у рэспубліцы, 11 — адзначылі, што ім абыякавае гэтае пытанне, і толькі 2 — выказалі сваю непрыязнасць да прадстаўнікоў іншых народаў. 62 працэнты адзначылі добразычлівае стаўленне да мігрантаў з іншых рэспублік, 19 — лічаць гэтае пытанне для сябе нейтральным, 13 — не задумваліся над гэтым і толькі 3 — падкрэслілі сваю непрыязнасць да іх. 67 працэнтаў беларусаў лічылі, што было б несправядліва, калі б у рэспубліцы пражывалі толькі прадстаўнікі карэннай нацыянальнасці.

І ўсё ж галоўнае пытанне этнакультурнай сітуацыі на Беларусі — гэта пытанне пра самую "карэнную" нацыю і яе культуру. Можна зразумець многіх беларускіх інтэлігентаў, перш за ўсё — пісьменнікаў, дзеячаў культуры, якія шчыра хвараюць за лёс роднай мовы і роднай культуры — бо, як кажуць, на кон ставіцца пытанне аб існаванні самога беларускага этнасу. У звязку з гэтым, трэба сказаць, што адной з важнейшых праблем з'яўляецца праблема вызначэння этнасу і самаідэнтыфікацыі этнагруп. Пытанні гэтыя вельмі дыскусійныя, як у нетрах этнаграфіі, так і ў практычных справах і могуць стаць прадметам палітычных сутыкненняў (а сям-там ужо сталі), і таму, як і ў іншых сферах жыцця, тут важная талерантнасць і мудрасць, уменне дасягаць кансенсусу, але, вядома, не за кошт ісціны. Заўважым толькі, што ў сучасных даследаваннях існуе шмат розных падыходаў да гэтых праблем у залежнасці ад зыходных спасылак аўтараў, а таксама ад узроўню развіцця грамадскага і палітычнага жыцця ў дадзенай краіне.

*Ёсць розныя падыходы да разумення этнасу:* адны падкрэсліваюць яго вонкавыя бакі і прычыны, другія — унутраныя, суб'ектыўныя, г. зн. падкрэсліваюць у асноўным духоўную самасвядомасць асоб, аб'яднаных у этнічную групу. Існуе і думка, што этнічнае звязана з першаснымі чалавечымі еднасцямі, з вялікімі рэвалюцыямі і грамадскімі рухамі.

Не будзем тут разбіраць усе наяўныя канцэпцыі і вызначэнні этнасу, пагодзімся толькі, што этнас не што-небудзь нязменнае, *пастаяннае, хоць і больш устойлівае*, чым пэўная пераходная сацыяльна-класавая структура. Этнас відазмяняецца разам з гісторыяй, у якой этнакультурныя працэсы адыгрываюць вялікую ролю. Разам з ходам гісторыі этнасы растуць (ці рэгрэсіруюць), аб'ядноўваюцца, відазмяняюцца і г.д. У этнасе, як і ў кожным чалавеку, узаемадзейнічае мінулае, цяперашняе і будучае.

Галоўная ўмова ўзнікнення этнасу — еднасць тэрыторыі і мовы — выступае потым у якасці яго прыкмет; Дадатковымі прыкметамі могуць стаць еднасць рэлігіі (а таксама для некаторых груп — блізкасць ключавых прыкмет у расавых адносінах). Этнасы розняцца асаблівасцямі духоўнай і матэрыяльнай культуры, звычаяў, норм. бытавых характарыстык, групавой псіхалогіі. Усё гэта адбіваецца ў самасвядомасці людзей дадзенага этнасу.

Наяўнасць духоўнай блізкасці для нацыі — прыкмета вельмі складаная. Пытанне ў тым — ці з'яўляецца яна вырашальнай? Адказы на яго ў розных плынях неадназначныя. У некаторых сацыялагічных працах падкрэсліваецца шматфактарнасць утварэння і сутнасці нацыі, складанае перакрыжаванне гісторыі і сучаснасці ў этнакультурных і этнасацыяльных працэсах.

У сувязі са сказаным, лічым неабходным закрануць так званую "праблему" Палесся, якая раз-пораз згадваецца на старонках нашай прэсы.

Мы не валодаем дакладнымі дадзенымі пра колькасць членаў аб'яднання "Полісся". У гутарцы з яго лідэрамі чулі, што іх некалькі тысяч, хоць дакладныя лічбы не называліся. Не будзем абмяркоўваць тут іх ідэйныя і аб'ектыўныя пазіцыі — пра гэта нямала пісалася ўжо, прывядзём лепш вынікі нашых сацыялагічных апытанняў у Заходнім Палессі.

Анкета, якую склалі ў аддзеле сацыялогіі культуры Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі, улічвала апытанне, праведзенае ў 1989—90 гг. і некаторыя новыя зрухі ў грамадскай свядомасці. Тут былі дэталізаваны, у прыватнасці, пытанні аб адносінах да мовы, да культуры наогул, да этнічнай самасвядомасці, да іншых этнагруп, якія тут жывуць. Новым было таксама пытанне аб грамадзянстве, якому аддаў бы перавагу рэспандэнт (адно ці два). Для ажыццяўлення гэтага даследавання была распрацавана праграма "Этнакультурныя працэсы на Памежжы", выбарка для Заходняга Палёсся, аналіз газеты "Збудінне", праведзена апытанне некаторых членаў аб'яднання "Полісся".

Сацыялагічныя даследаванні праводзіліся ў Брэсце і ў Брэсцкай вобласці, а менавіта: у Кобрыне і Кобрынскім раёне. у Маларыце і Маларыцкім раёне, у Іванаве, Пінску і Пінскім раёне. Анкетным апытаннем было ахоплена 358 чалавек розных узростаў і прафесій. 42,6 працэнта рэспандэнтаў адказалі, што лічаць сябе карэннымі жыхарамі Заходняга Палесся, паколькі на гэтай зямлі заўсёды жылі іх продкі; 47,5 — адказалі, што нарадзіліся тут, і толькі 10 — прыехалі сюды з іншых раёнаў Беларусі ці з былога СССР.

Апытанне паказала, што сувязі жыхароў Заходняга Палесся з Украінай або з Польшчай не вельмі значныя, яны намнога большыя з іншымі раёнамі Беларусі. Так, блізкіх сваякоў у Польшчы мае 2,2 працэнта апытаных, на Украіне — 13,5, у іншых рэспубліках былога Саюза — 17,9. *Пры гэтым самі рэспандэнты* лічылі, што асноўнай прыкметай, па якой чалавека можна аднесці да "палешукоў", з'яўляецца сам факт яго пражывання на тэрыторыі Заходняга Палесся (55,4 працэнта), 29,1 такім крытэрыем лічаць валоданне "мясцовай" (заходнепалескай) мовай, 29,6 — захаванне сваіх асаблівых звычаяў і толькі 1,9 лічаць, што такім крытэрыем з'яўляецца своеасаблівы знешні выгляд палешукоў.

Рэспандэнтаў, якія размаўляюць па-ўкраінску, было 3,9 працэнта, на польскай мове — 0,3. Рэгіён распаўсюджання ўкраінскай мовы пераважна беларуска-украінскае Памежжа (Маларыцкі раён — 9.1 працэнта), Пінскі раён — 5,1.

У сям'і нашы рэспандэнты размаўляюць пераважна на рускай і беларускай мовах. На рускай — 53,6 працэнта, на мясцовым дыялекце *беларускай* — 49,7, *на беларускай* — 12,6.

За рускую мову навучання дзяцей выказалася 65,1 працэнта, за беларускую — 53,4. "Мясцовую" мову, як мову навучання, назвалі толькі 5,9 працэнта, таму што вялікая частка рэспандэнтаў не ўяўляе сабе, як можна навучаць на "мясцовай" мове. Праўда, іншую думку выказвае пэўная група прыхільнікаў аб'яднання "Полісся", што групуецца вакол газеты "Збудінне", якая, дарэчы, пераважнай большасці насельніцтва Заходняга Палесся невядомая: ва ўсякім разе, нашыя рэспандэнты нічога пра гэтую газету, як правіла, не чулі. Значная частка тыражу яе асядае ў Мінску, Брэсце, Кобрыне.

*Асноўная частка рэспандэнтаў з Заходняга* Палесся лічыць, што з усіх названых культур самая блізкая ім беларуская, але перавагу аддаюць слуханню радыё і тэлебачання на рускай мове — 89,7 працэнта апытаных, на беларускай — 44,7, на ўкраінскай — 7,5, на польскай — 1,7, на "мясцовым" дыялекце, калі б былі трансляцыі на ім — 2,0. Пераважны выбар рускай мовы тлумачыцца больш значнай інфармацыйнай насычанасцю перадач на ёй, а таксама абмежаваннем узроўню валодання беларускай мовай, што пацвярджаецца такімі дадзенымі: на пытанне — у якой ступені вы валодаеце беларускай мовай, адказы былі наступнымі: ведаю добра, чытаю, пішу, размаўляю — 40,2 працэнта; чытаю, але не пішу і не размаўляю — 31,6; разумею, але не размаўляю — 15,5; кепска разумею — 1,4; зусім не разумею — 0,6.

З гэтых дадзеных вынікае неабходнасць паляпшэння асветніцкай работы, значных змен яе зместу, якасці радыё- і тэлетрансляцыі на беларускай мове.

Даследаванне паказала, што сярод пэўнай часткі насельніцтва існуе непакой, звязаны з магчымасцю міжнацыянальных канфліктаў. Гэта свайго роду рэакцыя на ўзнікненне міжнацыянальнай напружанасці ў некаторых *рэгіёнах былога* Саюза. *На пытанне пра* магчымасць міжнацыянальных канфліктаў на Беларусі, людзі адказвалі так: думаю, што ў нас у рэспубліцы канфліктаў быць не можа — 45,8 працэнта, лічу, што нязначныя канфлікты могуць узнікнуць — — 33,2; лічу, што ёсць глеба для сур'ёзных канфліктаў — 8,4; цяжка адказаць — 12,6.

Найбольшы працэнт тых, хто лічыць, што магчымы нязначныя і сур'ёзныя канфлікты, прыпадае на Кобрынскі і Іванаўскі раёны (57,7 і 32,2 працэнта адпаведна). Менавіта ў Кобрынскім раёне 39,2 працэнта лічаць, што магчымы сур'ёзныя канфлікты (пэўна, тут ёсць свае спецыфічныя прычыны, у прыватнасці, звязаныя з сутыкненнем паміж прадстаўнікамі Беларусі і Украіны на бытавой глебе, пра што паведамлялася ў друку); ва ўсялякім выпадку, кіраўнікам раёна і грамадскасці трэба было б прыслухацца да дадзеных сацыёлагаў і прыняць меры дзеля прафілактыкі магчымых — няхай і лакальных — канфліктаў.

І тыя дадзеныя, што прыведзены, і некаторыя *іншыя сведчаць пра тое, што жыхары Заходняга* Палесся ў сваёй абсалютнай большасці ідэнтыфікуюць сябе з беларускім этнасам, з беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай еднасцю. Нават такое "вострае" пытанне, як разгляд Заходняга Палесся ў выглядзе асаблівага моўна-культурнага або гаспадарча-эканамічнага рэгіёна большасцю рэспандэнтаў успрымаецца рашуча адмоўна. 61,7 працэнта з іх адказалі на першую частку пытання, што "Гэта зусім немагчыма", 60,3 працэнта рэспандэнтаў гэтак жа сфармулявалі свае адносіны да другой часткі пытання. "Ніколі пра гэта не думалі" — 24,9 працэнта і толькі 7,3 працэнта адказалі: "Я думаю, што гэта магчыма".

Жыхары Заходняга Палесся ў апытанні пацвердзілі сваю далучанасць да Рэспублікі Беларусь, калі адказвалі на пытанне: "Грамадзянству якой рэспублікі (краіны) вы б аддалі перавагу?" — Рэспубліцы Беларусь — *83,1 працэнта, Украіне — 6,7, Польшчы — 1,1.*

Заходняе Палессе — вельмі цікавы, своеасаблівы рэгіён, у якім, як рэдкія металы ў глебе, схаваны вялікія духоўныя багацці. Ці захаваецца гэта духоўная спадчына — залежыць ад сапраўды разумнай культурнай палітыкі, а ў рэшце рэшт — ад узроўню культуры ўсіх нас — грамадзян Рэспублікі Беларусь.

**Э.ДАРАШЭВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

**Ад рэдакцыі.**

За час, што прайшоў пасля правядзення гэтага сацыялагічнага даследавання, і сапраўды шмат што змянілася. Напрыклад, практычна перапыніла сваю дзейнасць аб'яднанне "Полісся", не выходзіць "Збудінне". І тым не менш мы друкуем гэты артыкул. Бо дадзеныя, якія прыводзіць аўтар, якраз і пацвярджаюць штучнасць, нежыццёвасць і бачную ўжо тады бесперспектыўнасць аб'яднання, якое нарабіла некалі гэтак шмат шуму.

